УДК 821.161.3
ББК 84 (4Беи)
К17

**Календа, С.**
К17 Трохлітровая проза: проза / Сяргей Календа. — Мінск : І. П. Логвінаў, 2012. — 252 с.

ISBN 978-985-6991-80-9.

Новая кніга Сяргея Календы — трохлітровы слоік зь вельмі неаднароднай субстанцыяй. «Архітэктурныя апавяданьні» вабяць зазірнуць у дамы, што стаяць на вуліцах розных гарадоў, але з вокнаў якіх ліецца цьмянае сьвятло шэрай безвыходнасці. Аповесьць «Генэрацыя фанцікаў і фішак» забясьпечвае сеанс сьветлай пяшчотнай настальгіі для тых, чыё дзяцінства прыпала на пачатак 90-х. А ў апавяданьнях з разьдзелу «Скура зямлі» можна знайсьці і фірмовы «брудны рэалізм» Календы, і нават спробы антыўтопіі. Такім чынам, кніга напраўду выклікае размаітыя паўтоны пачуцьцяў.

**УДК 821.161.3**
**ББК 84 (4Беи)**

**ISBN 978-985-6991-80-9**

*Цудоўнай і рознакаляровай В., якая заклала пачатак гэтаму праекту, падчас падарожжа вячэрняй электарацыяй у Смаргонь*

## ПАРТРЭТ АРХІТЭКТАРА

Карл намацаў у кішэні пінжака маленькую плястыкавую бутэлечку віскі «Рэд Лэйбл», якую набыў у крамцы «дзьюці-фры» ў аэрапорце «Мінск-2». Дастаўшы яе й адкруціўшы вечка, ён адразу спустошыў палову бутэлькі й адкусіў кавалачак бутэрброду — сыр зь сіняй цьвільлю й чорны хлеб з парасткамі пшаніцы, які яму прынесла сьцюардэса, шырока пасьміхаючыся й дадаткова пытаючыся пра напоі... «Apfelsaft, bitte»...

Ён архітэктар, ляціць у Нью-Ёрк, праз Франкфурт-на-Майне. Дарога мусіць быць доўгай, але цікавай, Карлу заўсёды падабаецца падарожнічаць, асабліва лётаць, гэты час ён бавіць за назіраньнем за аблокамі й зямлёю, падобнай на плед, пашыты з лапікаў... Беларусь, напрыклад, падаецца зялёным палатном... Эўропа дзеліцца на амаль роўныя ка-

рычневыя, зялёныя, шэрыя квадраты... Вада, а менавіта мора, вядома, усе адценьні сіняга, рэкі — вэны, возеры — блакітныя вочы.

За ўсё сваё жыцьцё, а яму ўжо споўнілася пяцьдзясят, архітэктар яшчэ ніводнага разу не наведваў ЗША, але нарэсьце ў яго зьявіўся вольны час сустрэцца зь сябрам, якога ён ня бачыў больш як пятнаццаць год... Ён ведае загадзя, што гэта ня будзе простым гасьцяваньнем, яго абавязкова заахвоцяць да якіх архітэктурных справаў, ці то дом дапамагчы пераўладкаваць, ці то летні дамок перабудаваць, але Карлу няцяжка, ён усё жыцьцё толькі гэтым і займаўся. Па маладосьці ненавідзеў, калі да яго зьярталіся сябры па справах, лічачы, што яны ім карыстаюцца, але потым, пасталеўшы, уцяміў, што займаецца справай, якая яму наканавана.

Архітэктар ляцеў у сваім звычайным адзеньні: мятая чорная кашуля ня першай сьвежасьці, ільняны чорны пінжак зь дзіркай на правым локці, старыя сінія джынсы, парваныя на каленях, сінія макасіны й гадзіньнік «Casio». Карл быў невысокага росту з крыху даўгімі напаўсівымі валасамі, раскудлачанымі ў розныя бакі, у яго быў даволі шырокі нос, на якім трымаліся тонкія акуляры бяз дужак, вусы напалову хавалі верхнюю губу, а пад ніжняй была доўгая барада, аточаная тыднёвым шчаціньнем... Перад ім ляжала кніга Гайнрыха Бёля, першы том поўнага збору твораў, ён толькі пачаў чытаць і яшчэ ня ведаў, што пабачыць у кнізе...

Карл ляцеў, пакінуўшы дома сям'ю, якая складалася з шасьці дзяцей, ужо амаль дарослых, толькі дзьве малодшыя дачкі былі яшчэ непаўнагадовымі... Чатыры сыны мелі ўжо сваё прыватнае жыцьцё, жытло і працу... Два старэйшыя, як і ён, працавалі архітэктарамі, але пакуль самастойна не вялі будоўлю, яны пачалі працаваць у кампаніі над праектам будоўлі комплексу хмарачосаў у Менску, што было модным апошнія пяць год... Жонка засталася ў майстэрні, яна рыхтавалася да выставы, гэта было незвычайным для яго, бо ўсё жыцьцё ён езьдзіў па сьвеце разам са сваёю каханаю, будаваў дамы, маляваў пляны забудовы, вонкавы каркас... і ня надта ахвотна прапаноўваў дызайн інтэр'ераў, а яна хадзіла ў музэі, малявала эцюды, выстаўлялася, дапамагала яму парадамі ў распрацоўцы інтэр'ераў...

Архітэктар па жыцьці быў даволі спакойным чалавекам, калі так можна сказаць увогуле пра чалавека, ён час ад часу быў узрушаны шалёнымі падзеямі, узьдзеяньнем алькаголю альбо гармонаў (у маладосьці)... У трыццаць год ён пачаў працаваць самастойна, да гэтага працаваў у групе архітэктараў над выкананьнем савецкіх плянаў, Дом зьездаў, тэатар ... ён, як толькі скончыў вучобу, адразу пачаў езьдзіць па савецкіх краінах і будаваць савецкую ідэалёгію, пакінуўшы бульбяныя вылазкі ва ўнівэрсітэцкіх часах...

Карлам яго назваў бацька, які на той час, калі ён нарадзіўся, займаў адметную пасаду ў аддзеле цэнзуры й ідэалёгіі, пісаў апавяданьні

ў стылі сацрэалізму, меў колькі дзяржпрэмій, але заставаўся закамплексаваным чалавекам... Карл, імя, якое адразу адсылала да Маркса, усёткі прыжылося ў сям'і, маці была нязгодная з выбарам, але яна мела мала шанцаў: сын мусіў быць альбо Карлам альбо Ўладленам.

Свой першы спраектаваны дом Карл пабудаваў (перабудаваў) пад Нясьвіжам, гэта было сямейнае лецішча... гэтым лецішчам ён ганарыцца й цяпер...

Бацька архітэктара прарочыў яму актыўную савецкую дзейнасьць і нават намагаўся гэтаму паспрыяць, але, як пісала ў свой час французская пісьменьніца Дэльфіна дэ Жырардэн, інстынкт — гэта нос мозгу, і Карлу шмат у чым па жыцьці дапамагалі пахі. Ён з падлеткавага ўзросту, стоячы перад домам, адчуў пах цэглы й захапіўся тым, як, якім чынам узводзяцца такія высокія й моцныя будынкі. І, калі ў бацькі пабачыў фотакарткі варожага Нью-Ёрку, спрэс забудаванага, ён зразумеў, што ўсё жыцьцё прысьвеціць менавіта архітэктуры, інстынкт яго не падвёў, але з бацькам выйшла цяжка, ён амаль да труны ганьбіў яго за тое, што ня слухаўся.

Бацькі звычайна разважалі пра выхаваньне свайго Карла так: трэба на яго ўзьдзейнічаць па прынцыпе пугі й перніка, але яны не ўлічылі той факт, што калі такім чынам гадаваць дзіця, яно можа апынуцца наўпрост тоўстым і пабітым... Карл, колькі помніць сваё дзяцінства, звычайна бегаў з пабітай папругаю сракаю, зь сінякамі на руках і на-

гах ад супраціву бацькоўскаму пакараньню, і аднačасова ён таўсьцеў, бо яго закармлівалі салодкім, асабліва чакаляднымі цукеркамі...

Цяпер ён сталы архітэктар, ягоны бацька даўно забыты, але і Карл таксама, так бы мовіць, забыты, альбо не прызнаны сваёй краінаю, бо не йдзе на супрацоўніцтва з уладаю й не будуе па яе замове новасацыялістычныя манумэнтальныя гмахі, кшталту палацу рэспублікі альбо нацыянальнай бібліятэкі, якая, па рэйтынгах архітэктурных і падарожных міжнародных часопісаў уваходзіць у сьпіс дзесяці найгоршых сучасных архітэктурных будынкаў сьвету... Ён часта ўспамінае словы сваёй бабулі: «Ніхто так ня ўмее жыць, як ня ўмеем мы»... так, сапраўды ніхто... Карл лічыць, што на дадзены момант ня самыя лепшыя часы для творчасьці, ды трэба штосьці рабіць цяпер, каб спрыяльныя часы насталі, але пакуль самае апошняе месца тут, у краіне, адводзіцца менавіта творчай дзейнасьці, ня лічачы, вядома, замежнікаў, якія ў Менску ўвасабляюць неверагодныя праекты, кшталту тых, на якім працуюць два ягоныя сыны... тут большасьці беларусаў лацьвей працаваць на заводзе, у бытавым абслугоўваньні, дзейнічаць праз фізычную моц і ані кроплі інтэлектуальнай дзейнасьці, яна занадта шкодная.

Творчасьць, якая там творчасьць у наш час, за намаганьні плоцяць мала, вядома, калі гэта толькі не прыватныя замовы на якісь катэдж для бізнэсоўца, але Карл амаль ніколі не прымаў такія замовы — спаскудзяць увесь праект

замоўшчыкі, бо, як вядома, усе лічаць сябе разумнейшымі нават за прафэсіяналаў, дый потым, ён проста не трываў гэтыя аднолькавыя бізнэсоўскія густы — дом каб вялікі, стандартны, каб там гараж на пяць машын, дах звычайны, але вось каб унутры італійскі дызайн.

Карл удала прадаваў аўтарскія праекты дамоў, збольшага ён не прысутнічаў пры пабудове, але меў прамое значэньне да працэсу праз ідэальна распрацаваны плян... Дамоў, пры ўзьвядзеньні якіх ён сам прысутнічаў і за якімі сачыў, было толькі пяць, гэта калі не лічыць лецішча і колькі дробных праектаў у кампаніях... І, bona fide, сапраўды пабудаванымі ягонымі ўласнымі рукамі сам Карл лічыць толькі тры дамы разам зь лецішчам... Большасьць дамоў, захавалі ягоны ўнутураны настрой і выглядалі неяк задуменна, крыху самотна, але ўсе, хто жыў у іх, жылі павольна й шчасьліва, акрамя нейкіх выключэньняў, якія адразу станавіліся адметнымі й выходзілі па-за межы гармоніі, і іхным падзеям тужлівым быццам не было канца, але мы ведаем, што ўсё мае свой пачатак і свой канец пад гэтым сонцам, і часта заканчвацца штосьці мусіць толькі па нашых суб'ектыўных меркаваньнях, толькі праз нашае бачаньне пэўнай праблемы, сытуацыі, абставінаў…

Усе -наццаць дамоў Карла пабудаваныя не ў Беларусі, але за мяжою, бо там архітэктар мае свабоду й аблегчаную бюракратыю... толькі свабоднае лецішча пад Нясьвіжам — вось адзінаая рэч, якую ён сапраўды вольна й па-

свойму зрабіў на гэтай зямлі, цяпер пад гэты мадэрнісцкі палац мясцовыя водзяць сваіх дзяўчат, жлукцяць каля яго, а то, дзіва адным словам... Гасьцей з суседніх вёсак клічуць, самаго архітэктара за вочы завуць Радзівілам.

Будаваць дом на лецішчы пачаў яшчэ бацька Карла, зямлю пад Нясьвіжам, ну амаль «пад» — вуліца Зялёная, 4 — сям'я называла «асабняком», але на ёй нічога не было акрамя таго, што завезьлі будаўнікі... Савецкія стандарты — дом мусіў быць з вэрандаю, двума паверхамі й альтанкаю побач, нічога звыш, усё сьціпла — агульны з суседзямі калодзеж, колькі сьцежак да дому, агульны яблыневы сад... Суседзямі на той час была сям'я аднаго з партыйцаў, які працаваў у Міністэрстве адукацыі, але ў дзевяностых зямлю разам з дамком выкупіў нейкі прадпрымальнік і, адбудаваўшы чатырохпавярховы гмах, абнёс яго высокім плотам, захапіўшы зямлю ад лецішча Карла, але той не спрачаўся, пасьля сьмерці бацькі яму не карцела лезьці са спрэчкамі да новых суседзяў, ён сумаваў і быў на мяжы глыбокай дэпрэсіі.

Галоўнымі мэтамі таго, што Карл пачаў перабудоўваць дом, былі: збор вопыту, вучоба на архітэктара й намаганьні зьнішчыць савецкую памяць...

Доўга, марудна, але дом набываў новыя рысы, Карл ня мог працаваць больш хуткімі тэмпамі праз тое, што кошты на ўсё неверагодна скакалі...

Калі нарэсьце зь лецішчам больш-менш было зразумела, пачалі працаваць камін і

ацяпленьне, праз колькі год дом у палон на восеньскія й зімовыя месяцы захапілі старэйшыя сыны, возячы сваіх сяброўак і сяброў то на рыбную лоўлю, то на катаньне на лыжах...

Апошняе, да чаго ён дакранаўся ў Менску — рэстарацыя...

Па дзяржаўнай замове закінутую кавярню-сталоўку, у якой абедаў яшчэ Якуб Колас, працуючы на савецкую ўладу, па вуліцы Інтэрнацыянальнай пачалі рэстаўраваць пад дарагую рэстарацыю з ільвамі па баках каля ўваходу, з суцэльным празрыстым шклом на вокнах, празь якія цалкам былі бачныя пакоі кухараў, што, дзе й як яны гатуюць, гэта было неверагодна: большасьць менчукоў ня мела грошай, каб там есьці, але на бясплатнае відовішча была ахвочая, а то, ня кожны дзень ёсьць магчымасьць пабачыць, як найвыбітныя замежныя кухары гатуюць далікатэсы... На ўласныя вочы яны маглі ўпэўніцца ў магічным майстэрстве, калі з патэльняў шухаў вагонь да столі, белае віно лілося ў рондалі... й ніхто, як гэта было прынята пляткарыць пра таннае грамадскае харчаваньне, у ежу не пляваў й не смаркаўся.

Цуд, дзіва, насупраць крамы й пляцоўкі байкераў паўстала адрэстаўраваная рэстарацыя, якая імгненна апынулася мараю васьмідзесяці адсоткаў мінчукоў... Потым краму й байкераў зьнеслі й пабудавалі на гэтым месцы пяцізоркавы гатэль... І тады рэстарацыя праз парк з-пад ілба зазірала ў вокны першага паверха гатэля, які мужна ўзвышаўся й меў абыякавы выгляд...

Рэстарацыя была першым й адзіным замоўленым праектам, які зьдзейсьніў Карл на пару зь сябрам, больш ён ніколі не імкнуўся працаваць у Менску й на пару зь кімсьці — гэтыя падзелы працы, грошы, дакуманты... Куды лягчэй было прадаваць свае гатовыя праекты за мяжу, тым болей, два зь іх у яго набылі амаль адразу, як толькі ён вырашыў пачаць новае жыцьцё... Першая сур'ёзная замова на будоўлю зьявілася праз украінскага сябра, архітэктар мусіў спраектаваць трохпавярховы дом для аднаго прадпрымальніка ў Львове, ішоў дзевяноста другі год, перабудова скончылася, штосьці новае варушылася, што — пакуль было невядома, але менавіта на гэтай мяжы, ад гэтай яскравай кропкі Карл пачаў самастойнае жыцьцё... Тэрмінова былі патрэбныя грошы, якія з кожным тыднем ператвараліся ў танныя каляровыя паперкі... старэйшы сын пайшоў у першую клясу...

Камандзір экіпажу прамовіў прыемным голасам, што самалёт ляціць на вышыні дзесяць тысяч мэтраў і пачынае зьніжэньне, тэмпэратура паветра пяць градусаў па Цэльсію... Пілёт прадубляваў вышэйсказанае коратка па-ангельску з моцным акцэнтам, пажадаў усяго найлепшага й падзякаваў, напрыканцы разьвітаўшыся крыху скамечана, зажаваўшы апошнія літары...

Карл мусіць перасесьці на трансатлянтычны рэйс і чатырнаццаць гадзін прабавіць у шматпавярховым Эйрбасе...

## ВУЛІЦЯ ЛЕСЯ КУРБАСА

Ляксей выкупіў суседні дом каля тэатру імя Леся Курбаса ў Львове... Яго сябра Стас часта любіў казаць, што Львів — гэта горад, дзе выдатна нарадзіцца, сталець, а потым зьехаць, зрабіць кар'еру й вярнуцца старым і з грашыма, каб дажыць і памерці, тут усе жыхары — людзі-коткі, яны не пасьпяваюць сачыць, як хутка ляціць час, таму што спаць котка можа да васямнаццаці гадзін у дзень... Лембэрг, казачны Львів, ён такі самабытны й патрыятычны, такі не падобны да астатняй Украіны, звычайна, як трапляеш у гэты горад, адразу зьяўляецца адчуваньне, што гэта Прага, Вюрцбург, але ня Львів, гэта Аўстрыя, Вугоршчына, але ня Ўкраіна, занадта вялікі кантраст існуе ў краіне, якая мае свой дзіўны Данецк і абрусеўшы Крым.

Ляксей удала пераканаў сябра — зрабіў тут кар'еру ў галіне крамніц хуткага харчаваньня й пераехаў з ускрайку Львова ў цэнтар...

Дом на Курбаса звонку быў пакрыты бліскучай бэжавай пліткаю, гаўбцы мелі чаканку, дах быў пакаты й выглядаў надта старым... Знутры Карл тры паверхі перапрацаваў да непазнавальнасьці: амаль паўсюль пакоі пазбавіў дзьвярэй, праходы пашырыў, зьнёс колькі сьцен, каб прасторы хапала на вялікія паседжаньні, сустрэчы, каб утульнасьць ствералася менавіта за кошт колькасьці людзей, бо Ляксей быў адным з тых, безь каго ня ладзяць вясельлі й юбілеі — ён быў шчыры, вясёлы, гаманлівы й сяброўскі, і гэтага ўжо было дастаткова, каб пераканаць Карла рабіць менавіта тое, што атрымалася.

Ляксей меў сям'ю, да якой кожны вечар прыходзіў цалкам іншым чалавекам, скрушным, незадаволеным, самотным, сумным... Ён зарана ажаніўся, зарана страціў каханьне, зарана пасталеў, зарана стаў бацькам, зарана разгарнуў бізнэс... Ён заўсёды хаваўся за паняцьцем «зарана», гэта здымала пэўную адказнасьць...

— Я ненавіджу цябе! — гарлапаніла Юля. — Ты мяккацелы яблан! Ты нат не мужчына, ты ануча, гаўно бяз палкі, пайшоў адсюль вон! — Такія нэрвовыя крыкі на Ляксея ад яго жонкі ўжо даўно пératварыліся ў штосьці звыклае, традыцыйнае... Яны жывуць разам ужо дзесяць год... Дачка сёньня ў ягонай маці, таму мінакі й наведнікі тэатру вечарам зноў чулі з расчыненых наросхрыст фортак альбо гаўбца лаянку... Ён з гэтым даўно звыкся, яго жонка часта была чымсьці незадаволеная, ён таксама... Ляксей быў

пасьпяховым бізнэсоўцам, але жанчыны, як толькі пачыналі адчуваць сваю ўладу над ім, шалелі й ператвараліся ў страшэнных курваў... Юля ўсчыніла чарговую сварку праз тое, што ён ня хоча набываць ёй новае паліто, бо старое ўжо сапраўды — старое... але «сапраўдная» праблема хутчэй была ў тым, што яму прыйшла нейкая невядомая смс і тое, што ён нібыта забыўся на сёньняшнюю сьвяточную вячэру...

Ідзі ты ў дупу, сьлюнцяй, я ненавіджу цябе... ён маўчыць... нясьпешна ўстае з-за стала і, спусьціўшыся на першы паверх, адчыняе шафу, адкопвае з нагрувашчанай купы вопраткі вялікі пакунак, бярэ яго й падымаецца па закручанай спружынаю лесьвіцы наверх, кладзе перад расчырванелай Юляй, якая цяжка дыхае й махае ў розныя бакі рукамі... Праходзіць далей на гаўбец, дастае пісталет Pistole M вытворчасьці ГДР па вэрсіі пісталета Макарава, накіроўвае дула ў правую скроню й страляе...

Рэха громам пранеслася па цэнтры Львова й вярнулася назад, страсянуўшы вокны й уключыўшы сігналізацыі ў машынах... Юля ўжо бегла на гаўбец, у вачах чыталіся разгубленасьць, жах, крыўда, злосьць... Яна пасьпела крыху разгарнуць пакунак, што ён прынёс, і з ягозьвісла крысо жаданага паліто...

Ляксей не ва ўсім быў удалым бізнэсоўцам... Большая частка грошай і да гэтага часу ляжыць на замарожаным рахунку ў адным невялічкім аўстрыйскім банку... зь ім разьвітацца прыйшлі толькі Стас й ягоныя рабочыя, дачка была ў бабулі, маці сказала ёй, што бацька зьехаў у камандзіроўку.

## ULICA ROWNA

Анджэй сядзеў на ганку пабудаванага дома, сёньня будаўнікі здалі працу... Наперадзе яшчэ было шмат дэталёвых дапрацовак, але збольшага справа была выкананаю. Ён сядзеў і смачна паліў, удыхаючы дым усімі лёгкімі, затрымліваючы яго ўнутры, перакотваючы ў роце, праглынаючы й выпускаючы маленькімі порцыямі, побач сядзела яго жонка й зачаравана сачыла за працэсам, сама яна ніколі не паліла, толькі некалькі разоў канаплю праз бонг, але гэта было, як ёй падавалася, цалкам іншым у адрозьненьне ад таго, як паліў яе муж... Ёй падавалася, што ён ведаў нейкі дзіўны таямнічы прыём, што ён калісьці даведаўся пра штосьці сакральнае ў самім мэтадзе курэньня й на дадзены час атрымліваў ад гэтага асалоду...

Вакол ганка бегаў сабака невядомай пароды, але вельмі прыгожы, далікатны й разум-

ны, ён насіўся, брахаў, і Анджэй ледзь пасьпяваў сачыць за ягонымі крутымі паваротамі... Вось ён нарэсьце спыніўся, паглядзеў на гаспадароў, высалапіў язык, забрахаў яшчэ раз, лёг долу й, рэзка падскочыўшы, пачаў кружляць па зашмальцаваным будаўнікамі газоне.

Дом па вуліцы Ровна быў звычайным для польскай архітэктуры і амаль нічым не адрозьніваўся ад іншых дамоў Беластоку, пакуль Анджэй не набыў у сваяка Карла новы плян забудовы й яны разам не распрацавалі яго як звонку, так і знутры... Гэта было шыкоўна, Анджэй упершыню меў сваю маёмасьць, бо, калі б не нямецкі калекцыянэр, які набыў ажно восем буйных карцін, ён так бы й здымаў жытло непадалёк ад цэнтру, адкладаючы грошы, каб плаціць кожны месяц за майстэрню й кватэру... Жонка Сьняжана працавала адміністратаркаю ў салёне прыгажосьці, і яе заробка хапала на ежу й транспарт... Дзяцей яны не плянавалі, сабака жэр за дваіх дарослых... але жыцьцё крута зьмянілася... й цяпер Анджэй быў настроены не спыняцца на гэтым, працаваць яшчэ болей... і каб дзяцей нарадзіць...

У Беласток ён пераехаў пятнаццаць год таму з Брэсту й пасьпеў за гэты час атрымаць польскае грамадзянства, зладзіць пяць салавыставаў і паўдзельнічаць у дзясятку агульных выставаў, у тым ліку і ў беларуска-нямецкім праекце «ДАХ» у Бэрлінскім Тахелесе, пакуль ён існаваў... Пра яго творчасьць часта пісалі, што ён нібыта пасьлядоўнік Бэк-

сінськага, але сам ён ад гэтага адмаўляўся і ўвогуле лічыў усіх, хто піша дасьледчыя артыкулы па мастацтве, дурнямі...

Сьняжана, якая больш ужо не сачыла за тым, як дыміць Анджэй, паднялася зь прыступкі на ганку, далонямі атрэсла пыл з джынсаў на азадку, абцерла па звычцы швэдар на жываце й выправілася ў пакой, крыкнуўшы ўжо з дому: «Андрэй, табе каву варыць патурэцку альбо заліць кіпнем?!». Яе крык быў настолькі гучным і недарэчным у прасторы, якая амаль не варушылася, застыўшы ў акце разважаньня, што Анджэй не адразу ўцяміў, што ад яго хочуць, скалануўшыся, спужаўшыся, сумеўшыся, ён кінуў у самаробную попельніцу (бляшанка з-пад кавы Нэскафэ) недапалак, крыху павярнуўшы ў правы бок галаву з жаданьнем гучна крыкнуць Сьняжане, якую каву яму гатаваць, як раптам, адкрыўшы ўжо рот, спыніўся... Ён паглядзеў на свайго сабаку, які, патурбаваны крыкам з дому, сядзеў на задніх лапах, варочаючы галавой то ў бок Анджэя, то ў напаўцёмную прастору калідора за яго сьпінаю, не разумеючы, што адбываецца...

«Ня ведаю, якім магічным чынам, але па жыцьці мне трапляюцца адны Сьняжаны, я ня супраць гэтага выдатнага сьнежнага імя, але ўсе яны татальна дурныя, прычым гэта пачынае праглядацца толькі праз пэўны час» — прамовіў Анджэй свайму сабаку. Толькі апошняя Сьняжана, зь якой ён жыве ўжо дзесяць год, адметна вылучаецца па розуме сярод ас-

татніх, але пасьля шлюбу ён заўважыў дзіўную рысу: яна была схаванаю дурніцаю, і гэта праяўлялася, толькі калі ў яго быў файны настрой, яна мела талент імгненна сапсаваць яго чарговым выбрыкам, спаскудзіць яму душу яшчэ адным папрокам альбо нават ненаўмысна проста пракрычаць з кухні пра каву...

Анджэй, абурыўшыся, перасыпаючы ў роце з боку ў бок розныя мацюгальныя словы, устаў і накіраваўся да Сьняжаны, а сабака, стаўшы на ўсе чатыры лапы, як ашалелы, пабег за ім, намагаючыся першым заскочыць у дом.

## ŽALGIRIO GATVĖ

На падваконьні стаялі плястыкавыя ёмістасьці, выразаныя зь літровых бутэлек содавых напояў... Ёмістасьці былі запоўненыя зямлёю, якая была на паверхні абсыпаная маленькімі парасткамі таматаў й перцу... Хутка ўся гэтая зяляніна мусіла пераехаць на лецішча ў парнік... На падваконьні грэлася чорная котка, сонейка блішчэла на ейнай поўсьці, яна ціхенька вуркатала... Па-над коткаю вісела зялёная фіранка, зь левага боку крыху пасунутая ў бок, бо тут зручней было сядзець на зэдліку й глядзець у вакно, а таксама даглядаць зялёныя парасткі.

Дом у Вільнюсе па вуліцы Жальгіро быў вельмі стары, двухпавярховы, да рэканструкцыі — драўляны й чорны, паедзены тэрмітамі, але цяпер ён меў колер чырвонага дрэва й шыферны дах быў цалкам заменены на файную карычневую чарапіцу... Кардыналь-

на зьмяніўся ў доме другі паверх, было прыбудавана і новае памяшканьне для летніх абедаў і вячэраў... Прыватны сэктар на гэтай вуліцы быў вельмі малы і з кожным годам памяншаўся...

Котка на падваконьні прачнулася, пацягнулася, скокнула долу й праз сэкунду была ўжо на каленях гаспадыні, якая, здавалася, спала ў фатэлі перад тэлевізарам... Пульт ляжаў на падлозе, з правага боку ад фатэля, але на некаторай адлегласьці, нібыта зваліўся ня ў той момант, калі жанчына заснула, але калі яна выцягнула руку, каб пераключыць канал...

Котка на каленях гаспадыні пачала лашчыца да грудзей, выцягваючыся й дакранаючыся пыскаю да шыі, яна прасіла есьці...

Раптам, амаль адначасова, зазванілі хатні тэлефон і мабілка... Хатні званіў незвычайна напружана ў ранішняй цішыні доўгімі гудкамі, якія захраснулі недзе паміж ля і сі бэмолямі другой актавы... Мабілка грала свой стандартны бахаўскі рынгтон кампаніі Нокіа...

Пакой быў відавочна дагледжаны й чысты, пылу амаль нідзе не было, шпалеры былі італійскімі, бэжавымі, новымі, паклеенымі два тыдні таму... Увогуле ня толькі гэты пакой, увесь дом быў зусім нядаўна перабудаваны, адрамантаваны й яшчэ пасьпеў захаваць пах клею, фарбы й тынкоўкі... Падлога паўсюль была засланая цёмна-сінім пакрыцьцём, якое надта хутка назапашвала сьмецьце, але было прыгожым й захоўвала

падлогу цёплаю... Гаспадыня дома хацела доўга адпачываць фізычна й маральна ад праблем уладкаваньня жытла, таму амаль за год перарабіла яго, пачынаючы ад самага падмурку... Яна спадзявалася, што ў будучыні ўнукі будуць жыць тут, і ім таксама не спатрэбіцца капрамонт.

У галоўным пакоі, які выконваў ролю залі й кухні, было ціха й пуста, сонца траплялa сюды толькі з аднаго боку, далей ішлі прыбіральня й ванны пакой, каморка, лесьвіца ўніз у склеп і ўверх да другога паверха й спальных пакояў, у адным зь якіх месьціўся набор з двух чырвоных фатэляў, пуфіка для ног і канапы, каля якой стаяў журнальны столік з сухімі галінкамі ў вазе... Тут было адно вакно, але вялікае, яно выходзіла на сонечны бок вуліцы Жальгіро, па якой ужо праехалі ранішнія машыны, й коркаў не было... Тэлевізар паказваў ранішні сэрыял для хатніх гаспадыняў, якія пасьпелі выправіць на працу мужчын і ў школу дзяцей, падрыхтаваліся да абеду (то бок склалі плян мэню й паклалі на талерку размарожвацца мяса) і цяпер мелі гадзінку на адпачынак... Гаспадыня не любіла гэты сэрыял і часта замест яго глядзела што-небудзь дакумэнтальнае, мужа ў яе не было, а дзеці ўжо даўно зь ёю не жылі, таму яна раніцу выдаткоўвала толькі для сябе: звычайна прачыналася а дзявятай, запарвала зялёную гарбату, адкрывала ёгурт, дастaвала «Кіцікэт» для коткі й сядала глядзець тэлевізар, а потым ужо перамяшчалася да

вакна, пасоўвала ўбок фіранку, уладкоўвалася на зэдліку, глядзела на свае парасткі таматаў, разважала, лашчыла котку... Яна забывалася на ўсё й сачыла за мінакамі на вуліцы... Потым раптам успамінала, што а першай пачынаецца яе любімая перадача й вярталася ў фатэль.

Хатні тэлефон ізноў прачнуўся, ён нібыта ірваў на часткі нерухомасьць паветра ў гэтым доме... было ўжо каля трох... котка не разумела, чаму гаспадыня да гэтага часу не гатуе звычайны абед, а сядзіць у фатэлі, нават не варухнецца.

На плоце вісела паштовая скрынка з ранішняю газэтаю.

## AM HORN

Дом на Ам Хорн у Ваймары ўзвышаўся на ўзгорку па-над ракой Ільм... Быў пачатак вясны, таму рака была разьлілася амаль утрая шырэй і лізала прыступкі садовага дома Гётэ...

Дом на Ам Хорн быў цалкам перабудаваны зь першага паверху й зьнешне пазбаўлены дэкору, толькі чыстыя, выкшталцоныя гэамэтрычныя формы, ніякага эклектызму, усё звышпростае й стыльнае — вокны на ўсю сьцяну, плоскі дах, сьцены звонку амаль сьлізкія і бліскучыя, чорныя зь сінім адлівам... Ад былога дому, у якім жыла старая фатографка, нічога не засталося, толькі перад уездам у двор захавалася скульптура агаленай жанчыны, якая напаўляжыць на амаль не апрацаваным кавалку мармура, набытым яшчэ ў пяцідзясятых.

З гаража выехаў спартовы Мэрсэдэс, за стырном сядзеў Ціль, побач зь ім ягоны бацька Томас, яны маўчалі, на задніх сядзеньнях ляжалі дзьве торбы са спартовым адзеньнем, бутэлькамі з вадою й красоўкамі, ручніком, наборам касмэтыкі... Здавалася б, звычайны Мэрсэдэс, звычайныя людзі, звычайны дзень, звычайная зямля Цюрынгія, але толькі Томас, які моўчкі сядзеў, быў сумны і ягоны позірк адсутнічаў, ён нават ня спрабаваў зачапіцца за прадметы... Ён быў у чорным паліто, якое звычайна апранаў на працу ў офіс, калі сядаў за стырно свайго Мэрсэдэса клясы С й выяжджаў на Йена алею... Цяпер усё зьмянілася, ён сядзеў пасажырам побач з сынам, бяз правай рукі, зь дзьвюма спробамі суіцыду праз атручваньне, годам лячэньня ў псыхааналітыка, годам хатняга лячэньня, бізнэс прададзены, ён не ўсьміхаўся ўжо чатырыста трыццаць два дні...

Дом, які саграваў раней ня толькі сваім дызайнам але й сям'ёю, цяпер падаваўся чужым, адасобленым, сын больш ня радаваў, жонка здавалася пабітаю, напэўна, даўно ўжо завяла палюбоўніка, хаця наўрад ці, увесь час яна сядзіць дома, разам зь ім... Ам Хорн раней было месцам шчасьця й бесклапотнасьці, за два крокі ад дому велізарны парк з ракою Ільм, рымскі дом й садовы дом Гётэ, дарога па алеі да замку Бэльвэдэр, сьцяжынкі да Обэрваймара, і адначасова Ам Хорн — гэта амаль цэнтар, дзе Палац, Гандлёвая плошча, Ратхаўз, Кірхі, Кнайпы... усё гэта, усё спрэс

цяпер аточана безвыходнасьцю... Яны едуць у фітнэс-клюб, нічога больш файнага на сёньня сын і жонка не прыдумалі, пасьля цыркаў, тэатраў, кіно, крамаў, бараў, паркаў, рыбнай лоўлі, ровараў, фітнэс-клюб быў апошнім выйсьцем... Ён, Томас, такі моцны й пасьпяховы чалавек, сам ня верыў у тое, што зь ім адбылося, сам не даваў веры свайму стаўленьню да жыцьця праз трагедыю, ён ніколі не чакаў такога, каб без рукі яму стала так цяжка й самотна, так невыносна, па-інвалідску гідка, ён часта чуў і чытаў пра выдатных моцных людзей, якія змагаліся з ракам гадамі, гублялі палову цела й працягвалі жыць, ня толькі выкарасквaліся, але дзейнічалі, супрацоўнічалі з новымі тэхналёгіямі й займаліся спортам, праграмаваньнем, творчасьцю. Яму, наадварот, нічога не патрэбна, кожную раніцу, як ён прачынаўся, высьвятляў, што цяпер без рукі... Кожную кепскую раніцу альбо вечар кульця балела й шалёна хацелася сьціснуць кулак, якога не існавала...

Татку, татку, ты так зьмерзьнеш, давай выходзь з-пад душу...

Томас не прыкмеціў таго, што занятак быў скончаны, таго, як ён разам з сынам сышоў зь бегавой дарожкі, накруціўшы сорак кілямэтраў зь пераменным тэмпам, не прыкмеціў таго, як сын дапамагаў яму распранацца, як цёр мачалкай яму сьпіну ў душавой... Ён нічога не прыкмеціў, толькі стаяў і глядзеў на

свае голыя пальцы на нагах, варушыў імі, сачыў за тым, як сьцякае зь цела вада... Мужчыны пасьля заняткаў праходзілі ў душавую паўзь яго, павернутага да іх сьпінаю, яны праз сэкунду заўважалі адсутнасьць правай рукі, на імгненьне затрымліваліся позіркам на чырвонай кульце, якая варушылася пад самым плячом, уздрыгвалі й сьпяшаліся хутчэй прайсьці, і кожнаму было няёмка за тое, што ён заўважыў у чалавека адсутнасьць рукі, ім было няёмка, за тое, што ў іх ёсьць абедзьве... Ціль працягваў зваць бацьку зьбірацца дадому, час паступова запавольваўся, зьнікаў, і заставалася толькі балючая самота, пачуцьцё несправядлівасьці.

## ULICE JIČINSKA

Жыцьцё сапраўды само па сабе кароткае, калі яго выдаткоўваць на нішто... Гэта Чэслаў ведаў з самага нараджэньня, разьмеркаваны пасьля сьмерці маці ў дзіцячы дом непадалёк ад Альшанскіх могілак у Празе...

Ён спрабаваў падаўжаць жыцьцё, захапляючыся навакольлем, прыдумляючы для сябе новыя хобі й гульні... Ягоная выхавацелька ўсяляк заахвочвала салодкім, але Чэслаў паставіў сабе за мэту стаць доктарам, ён хацеў выратоўваць людзей.

Чэслаў вырас, атрымаў адукацыю, узяў крэдыт, набыў дом з рамонтам пад тымі ж самымі Альшанскімі могілкамі, толькі цяпер зь іншага боку, на вуліцы Жычыньска, стаў трыццацігадовым доктарам з жонкаю-мэдсястрою й сынам, ператварыўся ў пасьпяховага мужчыну, які любіў піва, камэдыі, пятнічныя п'янкі зь сябрамі й сваю сям'ю, а такса-

ма хобі — склейваньне мадэляў самалёцікаў, якія пасьля вешаліся пад стольлю й павольна варушыліся ад скразьнякоў...

Ён замяняў неіснаваньне й разгубленасьць у сьвеце чымсьці матэрыяльным, ён ня надта верыў у духоўныя каштоўнасьці, сіроцкае жыцьцё да гэтага прызвычаіла, але матэрыяльныя багацьці ён лічыў найістотнейшымі ў жыцьцы і старанна назапашваў — новы Лэнд Ровэр, новая Аўдзі для жонкі, дом у крэдыт, дзьве працы ў дзьвюх розных больніцах, прыватныя кансультацыі дома, мэбля ІКЕА, новая падлога з падагрэвам, новае лецішча з тэнісным кортам, два рахункі ў розных банках, сяброўства, якое перарасло ў назапашваньне знаёмых, на ўсялякі выпадак набытыя дваццаць скрынак рысьлінгу, дзесяць скрыняў віскі, пяць новых чорных гарнітураў, два паліто, тры футры для жонкі, тры новыя сьпінінгі, два шырокафарматных тэлевізары, тры блэндары, запакаваныя, дзьве лядоўні, маразільная камэра з трыма вялікім аддзеламі, матацыкал...

Чэслаў да дваццаці год амаль нічога ня меў, але мэтанакіравана імкнуўся да ўсяго... Вучыўся як ашалелы, падчас вучобы працаваў асыстэнтам на апэрацыях... займаўся спортам, гуляў у карты на грошы, выйгравай-прайграваў, чытаў шмат, пісаў шмат, вучыўся маляваць, заводзіў дзясяткі хобі...

Аднойчы, калі ён увечары ў добрым настроі вяртаўся дадому, праяжджаючы з пра-

вага боку могілкі й паварочваючы на сваю вуліцу, раптам апынуўся аточаны сьцяною з дыму, які быў нібыта шчыльны туман... Ён праехаў яшчэ колькі мэтраў і спыніўся, выйшаў з машыны, амаль навобмацак пайшоў наперад, мінаючы іншыя машыны, якія зьнерухомлена стаялі на дарозе... Паступова дым раствараўся, і потым праз сьлёзы ён здолеў разгледзець, што дым ішоў ад буйнога папялішча на месцы ягонага дому...

Чэслаў пабачыў, што ізноў апынуўся цалкам пусты, голы, бязь нічога, ізноў, як тады, адзінаццаць год таму, ён вярнуўся да таго, з чаго пачынаў, толькі новы пачатак мусіў яго нечаму навучыць, зьмяніць погляд на жыцьцё, узьнесьці каштоўнасьці на іншы ўзровень... ззаду хтосьці яго абняў, скрыжаваўшы рукі на ягоным невялічкім жываце, ён пазнаў рукі любімай жонкі, зь левага боку ад яго стаяў любімы сын. Так, цяпер, з гэтага моманту жыць з нуля пачыналі яны разам, і гэта было ўжо зусім ня так, як адзінаццаць год таму...

## MURFELDER STRASSE

«У сраку гэтага грэбанага паліцыянта, гэта ж трэба, выпісаць штраф амаль ля дому»... Нікаля быў злосны, яны толькі пераехалі ў новы дом, ня кажучы ўжо пра тое, што ён вымушаны быў пакінуць Вену й паехаць па кантракце за новым філіялам кампаніі ў Грац... Яму ўсё не падабалася, раньняя зіма, сьнег выпаў ужо ў кастрычніку, ён за сёньня быў стомлены працаю, і яго цягнула на дно руціньне, цьмяная падробка жыцьця, шэрасьць і аднастайнасьць, колазварот сумных спраў у прыродзе, раніца-праца-абед-праца-вечар-дом-сон... Гэта было падобным да зажаванай аўдыёкасэты, якая яшчэ працягвала граць, але кепска, і вось-вось стужка мусіла альбо да канца выматацца вонкі з пластыкавага корпусу, альбо зажавацца ўшчэнт і парвацца... Нікаля загнаў машыну ў гараж і вырашыў колькі хвілін пастаяць на вуліцы, удыхаючы сьцюдзёнае паветра ля ракі Мур...

Ён уяўляў, як адчыніць уваходныя дзьверы, яго сустрэне жонка, пачне нешта распавядаць, ён лянотна распранецца, паставіць абутак у кут, кіне на падлогу тапачкі, якія возьме з паліцы, пасунецца праз калідор у залю, што сумешчана з кухняй, жонка пачне накладаць есьці, намагаючыся прыцягнуць ягоную ўвагу да свайго балбатаньня, ён, як звычайна, паглядзіць на ежу, не забываючыся мармытаць скрозь зубы неразборлівыя гукі згоды, нібыта ён уважліва слухае, возьме талеркі зь вячэраю, уладкуе іх на падносе й прапануе ёй накіравацца да канапы з утульным сталом для часопісаў, каб там паесьці й адначасова паглядзець тэлевізар альбо які фільм... Жонка, калі ён яе перапыніць, пагодзіцца, але замест вячэры запарыць сабе зялёнай гарбаты й працягне распавядаць пра цікавыя навіны дня, пачаўшы ўжо зь іншага месца... Потым яны сядуць перад тэлевізарам, ён павячэрае, вып'е паўбутэлькі брэндзі, памякчэе, стане крыху болей сумным і злосным на сваё абсурднае і шэрае існаваньне, абурыцца тым, што жонка перашкаджае яму глядзець фільм, стомлена папросіць прабачэньня, заўважыўшы, што яна больш нічога яму не распавядае, адзначыць, што не прыняў душ... Фільм, як звычайна, будзе нецікавым, па каналах будуць паказваць толькі адно брыдоцьце, у яго разбаляцца суставы на руках і нагах, значыць, заўтра будзе адліга... Яшчэ хвілін трыццаць яны маўкліва пасядзяць перад тэлевізарам, пакуль Нікаля не прапануе ісьці ў ложак... Жонка накіруецца ў ванны пакой, ён распра-

нецца і, як звычайна, пачне засынаць, праз сон адчуваючы, як жонка, вярнуўшыся з ваннага пакою, выключыць сьвятло і ляжа пад коўдру... Як звычайна — не цікава, як звычайна адно і тое ж па жыцьці ўжо столькі год...

У дзьверы пазванілі, скрозь сон Нікаля падумаў, што яму гэта сасьнілася, але званок паўтарыўся, потым яшчэ раз, потым настойліва й доўга... І гэта было цалкам незвычайна для ягонай сям'і, для ягонага жыцьця... Жонка ўстала, уключыла сьвятло, ён ўстаў, было ўжо дванаццаць. Апрануўшы халат, Нікаля спусьціўся на першы паверх і падышоў да ўваходных дзьвярэй, праз шкло ён заўважыў жанчыну, старую знаёмую, яна стаяла й калацілася ад холаду, вочы былі чырвоныя, заплаканыя, касмэтыка размазаная па твары, яна трымала за руку дзяўчо гадоў шасьці…

— Адчыніце, калі ласка, Нікаля, гэта я, Айрыс, я так болей не магу!!!

Жыцьцё пачало зьмяняць свой напрамак... Хтосьці стаў перапісваць сцэнар... і гэта ўжо было штосьці...

Як жа ён мог забыцца на Айрыс!?

Гэты дом Карл будаваў на месцы зьнесенага дому, што было нязвыкла ня толькі для земляў Штырыі ды й увогуле для ўсяго Ўсходняга Рэйху — у цэнтры гораду зьнесьці гістарычную каштоўнасьць.

## ÁG UTCA

Што значыць патрапіць пад скарачэньне на працы, калі ты зусім нядаўна ўзяў крэдыт на будоўлю дома й пасьпеў ужо засяліцца ў яго, расставіць мэблю каля яшчэ сьвежых сьцен... (дом быў вялікі і меў свой закрыты дворык, аточаны чатырма сьценкамі... дах быў плоскі, на ім разьмяшчаліся сонечныя батарэі, гараж быў унутры дворыка, пакояў налічвалася чатыры на першым паверсе і восем на другім)... Любая кампанія перасьледуе толькі ўласныя карысныя мэты, і цябе лёгка выкідаюць разам зь яшчэ трымастамі працаўнікамі на вуліцу, тлумачачы гэта тым, што існуе пэўны эканамічны закон захаваньня цэласнасьці прыбытку для прадпрыемства, але ўсе гэтыя тэрміны зусім не істотныя, калі ты стаіш на паркоўцы ля сваёй машыны, а ў галаве пульсуе адзіная думка — заўтра трэба

забраць рэчы з габінэту, трэба забраць уласныя рэчы... стаіш... глядзіш у сваё цьмянае адлюстраваньне ў вакне машыны, і тут раптам ізноў прыходзіць на памяць апошняя размова з дырэктарам.. Як так?.. Раптам... І ты ўжо на вуліцы...

Ян кінуў машыну на паркоўцы і накіраваўся ў бліжэйшы бар, яму трэба было пасядзець і паразважаць, прыдумаць плян, як ён падасьць інфармацыю жонцы і што ўвогуле цяпер будзе зь ягоным жыцьцём... І навошта ён так даверыўся нейкім цьмяна знаёмым дырэктарам на працы, даўшы веру, што месца будзе за ім вечна...

Быў яшчэ абед, калі ён замовіў сабе першы кілішак гарэлкі, і час зьнік, засталіся толькі ён і ягоныя развагі, ягоная скрушнасьць, яго скарга, яго крыўда... Ян адчуваў, як шалёна б'ецца сэрца, як скокае ціск, яму станавілася блага, але з кожнай порцыяй гарэлкі ён намагаўся растварыць гэтае пачуцьцё, увесь спатнеў, твар чырванеў, не было чым дыхаць, і ён ужо пад вечар выйшаў вонкі, разьлічыўшыся... Ён адчуваў, як гарыць усё цела, як змакрэлая кашуля студзіць сьпіну, восенькі вецер цягнуў з Дуная прахалоду, якая паступова ператваралася ў халаднечу...

Да дому было пяць кварталаў, вуліца Аг у Будапэшце пралягала каля вуліцы Тадэвуша Касьцюшкі, на тым самым беразе Дуная, дзе знаходзіўся і ён... Ян пакрочыў, ён дрыжэў усім целам і, каб сагрэцца, у суседняй крамцы набыў пляшку віскі... Ён адчуваў, як у яго падвыша-

ецца тэмпэратура, і вырашыў, што алькаголь будзе добрым сродкам, каб не захварэць...

Ён сьпьянеў, думкі блыталіся, ён блытаў дамы, людзі з парогаў гналі яго, лічылі вар'ятам. Ян ня быў здольны растлумачыць, дзе ён жыве й хто ён, тэмпэратура паднялася да сарака аднаго, алькаголь амаль цалкам адключыў дзейнасьць мозгу...

На наступны дзень ён прачнуўся ў парку, сутаргі йшлі па ўсім целе, рукі і ногі спаралюшана калола, гэта было невыносна, ён быў брудны, без паліто, гарнітур быў увесь у ванітах, рэчаў ніякіх пры сабе ён не знайшоў, відаць ноччу яго абчысьцілі. Усё цела гарэла полымем, ён адчуваў сябе вельмі кепска — слабасьць па ўсім целе. Тэмпэратура заставалася высокай. Ян, як ні намагаўся, ня здолеў успомніць, дзе жыве й хто ён такі, тэмпэратура й алькаголь скралі памяць... Ён пайшоў да бліжэйшага дому папрасіць вады, але яму адчыніла жанчына і, спужаўшыся, ляснула дзьвярыма — у яе быў сын, два месяцы ад нараджэньня, яна баялася, што гэты брудны мужчына якую інфэкцыю прынясе ў дом...

Ян зрабіў дзесяць крокаў, выйшаў з падворку прыватнага дамка й упаў на дарогу...

Жанчына, якая назірала за ім з вакна, вырашыла не выходзіць з дому, мужчына ўсё роўна выйшаў за межы яе маёмасьці, цяпер гэта не яе праблема...

Жонка Яна праз суткі нэрвовага чаканьня й пошукаў зьвярнулая ў паліцыю: муж у панядзелак раніцаю выехаў на працу... На ім, як звычайна, быў сіні гарнітур, чорная кашуля і чорны гальштук, чорнае паліто і чорныя чаравікі, ён выправіўся, як звычайна, на сваім чорным Порш Каен...

Машыну знайшлі на паркоўцы прадпрыемства.

## ВУЛІЦА БЭЗАВАЯ

Бэзавая вуліца была аточаная Гарбарнай і вуліцай 120-й дывізіі... Ня надта рамантычныя назвы для вуліц, якія былі забудаваныя прыватнымі дамкамі, што разьмяшчаліся аддалена ад шумных дарог і мэтро, але ня надта далёка ад Уручча... Карл амаль бясплатна працаваў над двухпавярховым домам, ягоныя найбліжэйшыя сябры назьбіралі й пазычылі грошай, каб любімая хворая дачка Ганна мела прыватнае жытло, каб было як мага меней чужых вачэй навокал, каб было сьвежае паветра, свой сад... Бацькі рабілі ўсё, каб Ганна добра пачувалася...

Лейкемія Ганну адолела шэсьць год таму, амаль пад самы васямнаццаты год ад нараджэньня... І ад гэтага часу яна няспынна па некалькі тыдняў наведвала больніцы, ляжала на апэрацыях, на пераліваньнях крыві й зь вялікай надзеяй у сэрцы чакала донара.

У сацыяльных сетках яна распаўсюджвала інфармацыю пра месцы, дзе можна здаць кроў, асабліва завастрала ўвагу тых, хто мае чацьвёртую групу крыві са станоўчым рэзусфактарам, пісала ў блогу пра сваё жыцьцё... Вывучала японскую й паўднёва-карэйскую мовы, нават падарожнічала ў Сэўл...

Ганначцы было дваццаць тры, калі бацькі разам зь ёю пераехалі ў новы дом на Бэзавую вуліцу, пакінуўшы ў раёне Сухарава трохпакаёўку... І празь месяц зьявіўся донар, такі жаданы, доўгачаканы, ён адшукаўся ў Нямеччыне, і бацькі адразу патрапілі ў палон пазыкаў і заклалі новы дом...

Ганна, уся танюткая, з амаль празрыстай скурай, высокая, гнуткая, з адрослымі на сантымэтар пасьля апошняй хіміятэрапіі валасамі, яна паглядала на сьвет вялікімі, добрымі і зьдзіўленымі вачамі, яна не любіла сонца, бо ад яго ёй станавілася блага, зрэдку піла чырвонае віно, але ёй гэта забаранялася... Яна хацела жыць шчыра, весела й доўга... Яна праз сваю хваробу не трапляла ў палон дэпрэсіі, наадварот, весялілася й ад усяго сэрца любіла жыцьцё...

Калі ёй сказалі пра донара й хуткую апэрацыю, яна ўзрадавалася, што хутка жахі скончацца...

Нават калі яе везьлі на апэрацыю, яна працягвала баўбатаць з мэдсёстрамі й хворымі, пакідала мабілку цырульніка, які вы-

разаў ёй на патыліцы машынкаю для стрыжкі прыгожыя мудрагелістыя ўзоры, што надавалі яе кароткім валасам пэўны стыль, і ні ў каго нават думкі не зьяўлялася, што яна хварэе і кароткая даўжыня валасоў у яе праз «хімію»... апэрацыя была для яе сьвятам, вызваленьнем у любым выпадку...

Больш шчырага, чыстага, сьветлага чалавека не было на сьвеце, яна пазытыўна ставілася да сябе й навакольля, гэта было нібы замест гаючых лекаў — яна ўсё даравала, усё любіла, не прасіла зашмат, усяму верыла, усё трывала... І была гатовая да ўсяго, была гатовая нават да сыходу...

А потым, пасьля апэрацыі па перасадцы — стабільнае цяжкае становішча... рэанімацыя... пачалі вэнтыляцыю лёгкіх... не дапамагло... спыніла працу печань...

Яна выглядала вельмі прыгожаю, апранутая ў сьвяточную сукенку — нявеста Бога... на тварыку лёгкі макіяж... толькі рукі з-пад ручніка выдавалі жаўцізною...

У сацыяльнай сетцы яна напісала, што тут рабіць няма чаго, увесь гэты «кантакт» спаганіўся, а ў блогу пакінула апошнім запіс: «Мне сумна й цяжка, усім вакол патрэбныя дактары, мне патрэбны доктар, доктару патрэбны доктар, жах!»

Яна сышла з гэтага сьвету акурат у дзень нараджэньня старэйшай сястры. Яны моцна трымаліся адна за адну й шчыра, аддана любілі... і сыход у дзень нараджэньня быў сымбалем іх духоўнага й фізычнага яднаньня, яны цяпер сталі адным цэлым, бясцэнным...

Толькі бэзавы дом на Бэзавай вуліцы пакуль пустуе й пазірае на мінакоў чатырма шэрымі вокнамі...

## 23

Так... у Карла квіток з дваццаць трэцім месцам у Эйрбасе, і гэта добра, бо ён жыве ў дваццаць трэцім доме ў Менску, яго сярэдняму сыну дваццаць тры, і ён, Карл, пяць год як кінуў паліць...

Карл вельмі ўважліва ставіўся да знакаў і лічбаў і паўсюль знаходзіў для сябе цікавыя аналёгіі, сымбалі, прыкметы, ён лічыў, што ў жыцьці проста так нічога не адбываецца...

Ён выйшаў па трапе з Боінга й адразу апынуўся ў салёне аўтобуса, які, дачакаўшыся ўсіх пасажыраў, што ляцяць у Амэрыку, зачыніў дзьверы й павёз іх па неабсяжным аэрапорце Франкфурта-на-Майне да патрэбнага самалёта...

Карл задумаўся й раптам успомніў Ганну й сваіх любімых сяброў... «Цікава, калі яны пераедуць у дом на Бэзавай вуліцы?». Ён упэўнены, што яны не прададуць яго, бо баяцца

пакрыўдзіць сябра... Напэўна, калі ён вернецца, трэба будзе націснуць на іх, пераканаць вярнуцца ў дом, калі яны гэтага яшчэ ня зробяць... Яму прыйшла смс ад жонкі, яна пісала, што яе новую выставу перанесьлі на некаторы час, значыць, ён пасьпее вярнуцца і трапіць на адкрыцьцё.

Аўтобус спыніўся каля трапа B23. І гэта таксама было выдатна.

15.08 — 23.112011
Менск

## ГУРТКІ

У сям'і дзеці й сабакі
заўсёды ведаюць усё,
асабліва тое,
пра што ня гутараць
*Франсуаза Дальто*

### 1.

Жуйкі «Turbo», «Tipi-tip», «Love is...» з фанцікамі, печыва «Wagon Wheels», цыгарэты «HB», таннае віно «Крыжачок», гульні ў фішкі й бутэлечку, налепкі з Чарапашкамініндзя, круглыя кардонкі з голымі цёткамі, якія трэба было мачыць у вадзе (мы іх сьлінілі языком), тады станік на іх раствараўся, і ты меў некалькі сэкундаў, каб пабачыць сыліконавыя грудзі. Першыя прыстаўкі «Sega Mega Drive — 2», першыя гульні на іх, якія доўжыліся па некалькі сутак: «Super Mario»,

«Jurassic Park 1, 2, 3», «Mortal Kombat», «Golden Axe», «Sonic», і, вядома, рознага кшталту стратэгіі, да прыкладу, «Doom», ці такія гульні, як «Зорныя войны». Якасьць гульняў была вельмі нізкая, нават сучасны калькулятар мае больш функцыяў і выглядае больш прывабна, але ў тыя часы гэта нікога не турбавала, нават той факт, што тэлевізар «Віцязь» быў здольны паказваць прыстаўкавыя гульні толькі чорна-белымі, таксама не мела значэньня, пасьля «Тэтрысу» гэта было наступнае захапленьне ў дзяцінстве, якое час ад часу адкладалася, бо я меў ахвоту ўвечары пагуляць у баскетбол зь сябрамі, дзе пасьля некалькіх таймаў абавязкова зьяўляліся дзяўчынкі, і баскетбол спакваля пераходзіў у іншыя гульні.

Жыцьцё, якое падавалася тады досыць бесклапотным, цяпер бачыцца цалкам іншым. Я памятаю, як бацькам было цяжка з грашыма, калі перабудова скончылася, калі тата вымушаны быў працаваць па некалькі зьмен запар на аўтазаводзе, і ён пачаў піць, і ў свае дваццаць восем стаўся майстрам гэтае справы. Я ў сям'і быў раньнім дзіцём, мне было амаль восем, і я трохі разумеў становішча бацькоў. Матуля таксама днямі працавала. І мяне дагэтуль зьдзіўляе, якім чынам яны знаходзілі вольны час і грошы, каб адвесьці мяне ў «кружок» альбо ў чарговую творчую школу. Мае бацькі рана пачалі сямейнае жыцьцё й не пасьпелі атрымаць пэўнай адукацыі, з усёй моцы імкнуліся даць мне

ўсе магчымасьці для самарэалізацыі, таму, пачынаючы з чатырох гадоў і да дзевятнаццаці, я спрабаваў у жыцьці амаль усё.

Краіна атрымала незалежнасьць і падымалася з кален, але цуд дзяцінства хаваецца ў тым, што яно не заўважае такіх дробязяў, як Перабудова, Рэвалюцыя альбо аўтарытарызм. Дзяцінства выдатна памятае першы замежны ровар «горнік», першую рагатку, першы сьлінавы пацалунак з дзяўчынкай, першую цыгарэту, першае віно, першае каханьне, першае хобі, першыя фанцікі й жуйкі. Тое, што краіна магла разваліцца, а культура зьнікнуць, было неістотна. Нашае пакаленьне толькі пачынала жыць, і нам хацелася ўсяго таго, што мы бачылі ў новых каляровых тэлевізарах, усяго, што прапагандавала рэкляма й прадавалі шапікі — ад модных цыгарэт да «сьнікерса». Хацелася жыць, як Мішкі Гамі альбо Дональд Дак у цудоўным сьвеце Ўолта Дыснэя, які ствараў новую прастору, робячы нас няўдалым пакаленьнем зь незразумелымі разьбітымі марамі, з надзеямі і п'янымі жаданьнямі ўсяго яскравага й замежнага, усяго таго, чаго бракавала ў шэрыя перабудовачныя й крызысныя часы. Мы імкнуліся кімсьці быць, мы імкнуліся да назапашваньня навыкаў і ведаў, якія ў будучыні разаб'юцца аб сьцены непаразуменьня й непатрэбнасьці. Хоць зараз выходзь на вуліцу з апытаньнем, і кожны з нашага пакаленьня апынецца няўдалым эканамістам, бухгалтарам, юрыстам, тым самым адукаваным

вар'ятам, які ахвяраваў свае школьныя і ўнівэрсытэцкія гады на нікчэмную адукацыю, каб потым ня мець магчымасьці кудысьці ўладкавацца на працу, бо патрэбны альбо вопыт, альбо, прабач, калі ласка, ты проста той самы чарговы чалавек з пакаленьня «бэбі буму», з пакаленьня перабудовы, і вас зашмат. Так, зашмат вас, тых самых, з пакаленьня ружовых мараў, з пакаленьня першых каштоўных фанцікаў з-пад жуек і першых гульнёвых прыставак, у часіны, калі краіна амаль сканала, як той сабака...

## 2.

Калі я патрапіў у спартовую залю па барацьбе дзюдо, мне адразу гэтае месца дзіка не спадабалася, бо ад матаў, якія зьмякчалі падзеньні барцоў, моцна й канцэнтравана пахла потнымі нагамі, і не проста потнымі нагамі, але МУЖЧЫНСКІМІ потнымі нагамі, бо, як я адразу пабачыў, дзяўчат там не было, акрамя адной прыблуднай, якая цалкам выдавала на задзірлівага хлапчука.

Дык вось, маё знаёмства са спортам пачалося менавіта з гэтых матаў, якія, прыціснуўшы мяне да сьцяны, сваёю тоўстаю дупаю, мыла анучай прыбіральшчыца. Мыла яна маты і прыгаворвала: «Вось паскуды, пяску нанесьлі! Дзе яны тут пясок знайшлі?!». Міма яе велізарнага цела паціху пачалі прашчэмлівацца дзюдаісты, кіруючыся ў распранальню.

## СЬВЕТ

*Пад сьветам шмат задніц і дзірак...*
*Ален Гінзбэрг*

Сьвет складаецца з вэрбальных пачаткаў слоў, якія месьцяцца мэталічным сьмецьцем між нёбам ды языком, і гэтымі словамі мы дабіваем людзей, вырабляючы з іх завадных лялек, падобных на блядзей, якія стройна ў нагу па плошчы ходзяць, сьвет — гэта другаснае... перапрацоўка таго, што ўпіхваецца бігмакам у рот, сьвет — гэта кавалак мяса, які кішыць чарвякамі ў страўніках мільёнаў людзей, якія тоўстымі babракамі душаць зэдлікі ў месцах хуткага харчаваньня, сьвет — гэта этыёп, дохлы, схуднелы ад галаду й місыянэрскай параноі, запіхвае ён крыж, куды ня трэба... сьвет складаецца з жыцьця, цуду й красак, якія зьвялі ў вазе, з дурных людзей, якія калупаюцца ў носе, а дзесьці за паўмэтры

ад іх бацька б'е дзіця, якое задушыла ката, а дзесьці герпэсная шлёндра адсмоктвае ў самой сябе, спрабуючы абрадзіцца цяжарнасьцю ў блядзкім сьвеце... сьвет — гэта я, я рву грудзі на часткі, сьціраючы пальцы ў кроў, сьвет — гэта я, на каленях — голы, сьвет — гэта ты, і ты, як і я, спрабуеш прыжыцца сярод мільёнаў жаданьняў ды пахаў мачы й поту ў аўтобусах, набітых целамі працаўнікоў, якія акрамя белага ды чырвонага напояў, нічога ня бачылі зь дзяцінства і, цалуючы чужыя сьвятыя мошчы, ты кусаеш локці ў царкве, шукаючы душэўны спакой, сьвет — гэта мядовы пернік, які так любяць замяняць пугай садамазахісцкай... сьвет — гэта падлеткі, якія адчайна шукаюць адно ў аднаго клітары ды эрагенныя кропкі, падлеткі, якія пальцамі з абгрызенымі пазногцямі калупаюцца ў сраках сяброў, блытаючы іх зь іншымі дзіркамі... сьвет — гэта ён — патлаты валацуга Дхармы, які, як і я, мерае мерна ходнік намулянымі ступнямі

30.08.2009
Менск

## Я НЕ ЖЫВУ

Я не хачу жыць тут, пачуваючыся быццам у танным камэдыйным фільме пра параноіка-цара... тут немагчыма існаваць, ведаючы, што ты жывеш побач з тымі, хто спрабуе «выслужыцца» перад уладаю й робіць усё, каб яго заўважылі, прычапілі на пагоны чарговую зорачку за тое, што ён зьбіў падлеткаў... як магчыма жыць тут?! дзе жанчын, якія ўчынілі страйк, бо больш няма моцы змагацца з такімі высокімі коштамі на ўсё — ежу, вопратку... затрымліваюць і, перавозячы іх у таніраваным аўтобусе, у якім вісяць чамусьці расейскія сьцяжкі й налепкі трыкалёру на дзьвярах, прымушаюць ляжаць жыватамі на падлозе... дзе цяжарная жанчына — патэнцыйная пагроза ўладзе... яе абавязкова трэба таксама ўпіхнуць разам з тымі, хто пляскае... я адмаўляюся тут існаваць, бо калі я пачы-

наю разважаць, што калі б у мяне былі дзеці, я б баяўся выпусьціць іх на вуліцу, бо там ходзяць мянты й тыя, хто «в штатскам»... мяне ніколі ня будзе тут, пакуль будуць існаваць яны... альбо я, альбо яны, альбо тыя паскуды, альбо ўсе мы... як увогуле можна жыць, калі ты ведаеш, што чарговае быдла ў трэніровачных касьцюмах зноўку зробіць свой выбар, за «працьвятаюшчую Беларусь» і «быкі» адпіздьдзяць мінакоў, запхунуць іх, старых, маладых, немаўлят (дзед з унукам (1,5 год) гулялі ў ладкі, пасьля разам сядзелі ў апорцы), цяжарных, змагароў, інтэлектуалаў, модных і проста п'яных, забяруць, саб'юць, пырснуць сьлезацечным газам у твар... дзе шаснаццацігадовых школьнікаў распрануць у камэрах-адзіночках і галавою іх аб сьцяну... галавою аб сьцяну... а потым — падпісвайце ўсе дамовы, што мы «ня маем скаргаў»... як, скажыце мне, тут жыць, калі прачынаесься раніцою, і баісься ўключыць тэлевізар, па якім паказваюць толькі «самыя праўдзівыя і сьвяточныя навіны» й чарговая Наташа Хуяблёва з Сальмадухам, наярываюць песьні пра шчасьце ў Белоруссии... гэта ж адкуль яны, дэбілы, узяліся, дзе тая іх краіна, я мо' таксама туды хачу, дзе няма крызісу, і мне ня трэба, як апошняму гаўнюку, шукаць залатыя даляры, бо ў мяне пазыка ў замежных грашах, дзе мне ня трэба з вусьцішшу і параноей хадзіць па вуліцах, жахаючыся мінакоў, нават калі яны пытаюцца «колькі часу» — хуй іх ведае, мо' яны мяне

зараз пад ручанькі і ў які аўтазак... дзе гэтая грэбаная краіна, гэты вырай, парадыс, дзе ўсё танна, як бажацца некаторыя гаўнюкі, пазіраючы ў аб'ектывы тэлекамэр... як увогуле ўсе тыя выблядкі здольныя варушыць сваімі языкамі, гледзячы ў тэлекамэры, нават не міргаючы, як яны пасьля гэтага сьпяць, як яны жывуць?! мяне няма тут, у краіне, дзе чалавечае жыцьцё й свабода каштуюць роўна адну мянтоўскую прэмію... цікава, як яны, гэтыя, хто з прэміямі, пасьля «працы» нясуць грошы ў свае «сем'і», альбо захоўваюць іх у банках, пад падушкамі, каб іхныя бастарды ў будучыні мелі магчымасьць вучыцца ў платных віну... я ненавіджу цябе, мая краіна... мне сорамна за цябе... мне агідна за нас... я не жыву ў той краіне, у якой я вымушаны тлумачыць сябрам-замежнікам, дзе яна знаходзіцца... я тут не жыву, прабачце, тут адбываюцца нейкія жахі, а я жыву вось там... ага, менавіта там! я люблю цябе з усёй моцы, мая краіна, але люблю без усяго таго, што цяпер ёсьць... дай жа мне любіць цябе шчырай, вольнай і неўміручай, бяз царкоў, мудакоў і культурнага гэнацыду, дзе родная мова — гэта ня дзіва, а маўленьне на ёй — не геройства... і ў мяне пытаньне да цябе! Так, менавіта да цябе!!! а ты што? што? нібыта ніколі так не лічыў? ніколі так не трымцеў з гэтае нагоды? ніколі думак такіх не агучваў?! ніколі не адчуваў тут сябе бежанцам?! эмігрантам?! што маўчыш? а? нібыта тут усё для цябе выдатна? што нічога не кажаш? а? дзе ты быў, каб параўнаць свой узровень жыцьця? што? нідзе?

таму ўсё добра? таму нікуды й ня трэба? нахуй замежныя грошы? едзь на браславы! нібыта толькі для гэтага існуюць замежныя грошы... быў дзе? адказвай! быў? што маўчыш! не падабаецца гэты тэкст? не падабаецца, бо пытаньні ўздымаюцца, пра якія ня хочацца?! нідзе ня быў? і ня хочацца?! вось табе, нарач, браславы, вось табе магілёў і гомель... паўсюль адна хуйня.... паўсюль насаджаецца ўжо колькі дзесяцігодзьдзяў савецкі лад жыцьця, у архітэктуры ганаралівы сталінскі ампір... навошта? а? навошта нам гэта, калі мы хочам жыць па-іншаму?! на грошах — сталінскі ампір... за горадам лінія сталіна... нічога не нагадвае?! а чаму нічога не мяняем? што маўчыш?.. зарабляеш пяцьдзясят баксаў за месяц і нібыта задаволены ўсім? Зарабляеш сто баксаў на месяц, і ўсе цябе трахаюць, і выйсьця аніякага няма?! сэнс існаваньня? за добры лад жыцьця? за Беларусь? за што? навошта? якога? у дупу! праз сраку! у лайне па вушы! паглядзі на суседа і дай яму ў морду, калі ён кажа, што тут ёсьць сэнс існаваньня! я не жыву, ты не жывеш тут, ён не жыве тут! вось так цяпер гучаць скланеньні... паўтарай! мы існуём, ён існуе, яна выжывае... бачыў калі-небудзь, як старая жанчына купляе сем батонаў і пакет малака? сем батонаў — уся ежа на тыдзень, сто пяцьдзясят грамаў малака на дзень?! што маўчыш? падабаецца табе тут? што лыбісься? дзейнічай!!!

4.07.2011
Менск

## КАРОБКА

*Быў халодны й пагодлівы красавіцкі дзень, гадзіньнікі прабілі трынаццаць*
*Джордж Оруэл «1984»*

2065-ы расплюшчыў вочы й паглядзеў на дзьверы, якія былі зачыненыя на засаўку, замок быў не патрэбен, ён нават ня ведаў, што такое ключы... паліцыя дагляду забараняла замыкацца нават у прыбіральні... была волкая раніца, яго, як звычайна, падняла радыё а шостай... грымнуўшы гімнам Імпэрыі Ўсходніх Сялян, разварушыўшы ягоны мозг, распачаўшы са словаў: «мы сяля-я-я-не, вялікія людзі, спакойна жывем на цудоўнай зямлі, жыта рыхтуем, бульбу гадуем...», ён пазмагаўся з кнопкаю на радыё, каб зрабіць цішэй, але, як звычайна, беспасьпяхова... за вакном пайшоў дождж, такі ж звычайны для раніцы, як і гімн... ён сеў на ложак, паглядзеў

у падлогу, раніца для яго была пакутаю... з правага боку на сьцяне радыё апошні раз прагаласіла «мы сяляне» й перайшло на мужчынскі бас, які вітаў з волкаю раніцаю й абвяшчаў апошнія навіны Імпэрыі: «...на сегодняшні мамент збожжа ў Імперыі сабрана каля 235134 тон і на гэтым, як сказаў старэйшы брыгадзір камбайнёраў, ніхто з працаўнікоў спыняцца не сабіраецца... а таксама — з візітам па азімых па краіне праедзе Міклахай Сонечны...» дыктар яшчэ нешта баўбатаў, даволі тыповае й звыклае, кожную раніцу ён чытаў амаль аднолькавыя навіны, толькі мяняліся лічбы... 2065-ы пацягнуўся й выправіўся ў прыбіральню... пасьля туалету, пачысьціўшы зубы, ён пачаў старанна галіцца, бо камэры на гальштуках-матылях, якія яны апраналі раніцаю і зь якімі разьвітваліся толькі пад вечар, пільна сачылі за зьнешнім выглядам, таму што так было напісана ў «Галоўнай кнізе»... зь нявголеным тварам лёгка патрапіць на спэцпрацу... мужчына апрануўся ў чырвоную вопратку, якая колерам адносіла яго да працаўнікоў на зямлі (камбайнёры, трактарысты й сейбіты)... была яшчэ зялёная вопратка, яе апраналі толькі тыя, хто працаваў на будоўлі Лядовых Палацаў, чорная для кіроўцаў і карычневая, прызначаная прамыслоўцам і спэцрабочым...

2065-ы, як толькі апынуўся на вуліцы, адразу быў агаломшаны гоманам і лямантам, што даносіліся з дынамікаў ля вялікіх пляс-

катых экранаў... ён з самага нараджэньня ні адну хвілю не адчуваў сябе ўтульна ў гэтым сьвеце, быццам нарадзіўся ня тут і ня ў гэты час... з самага вялікага экрану, які трапляўся яму на сьцежцы да грамадскага прыпынку, усьміхалася жанчына і, як звычайна, гаварыла доўгую прапагандысцкую прамову: «гальштук-бабачка прыкрасная вешч, якая не толькі дзелает вас красівымі, але таксама ахраняет ваша здароўе... адзяваю камеру, каб жыць і каб любіць... абірайце і набывайце бяспеку толькі ў магазінах Імпэрыі...» мужчына крочыў да свайго аўтобусу і час ад часу дакранаўся да гальштука-матыля... 2065-ы аднойчы забыўся на гальштук і не апрануў, як звычайна, раніцою... потым давялося адпрацоўваць на заводзе па вытворчасьці пліткі для ходніка... усё гэта было залічана па стацьці №3846 — «Няўважлівае карыстаньне прыладамі Імпэрыі й спроба Рэвалюцыі ў самым вольным і мірным сьвеце»... пасьля гэтага ён баяўся здымаць матыля нават ноччу й у прыбіральні...

надвор'е ў Імпэрыі амаль ніколі не зьмянялася, раніцою йшоў дождж, а празь дзьве гадзіны праглядала сонейка й пякло ажно да самага вечара... уся Імпэрыя знаходзілася пад вялікім капалам, які быў сканструяваны ў космасе й пастаўлены на краіну яшчэ ў часы Алянандра Непабядзімага, які ў «Галоўнай кнізе жыцьця сялян» тлумачыў гэта такім чынам: «мы, сяляне, высшая нацыя, і акра-

мя нас большэ не сушчэствует міра, таму гэты купал будзе ахраняць нас ад таго, каб мы случайна не пападалі, дайшоўшы да края зямлі Імперыі...»

Імпэрыя Ўсходніх Сялян мае цэлую структуру, правадыру Міклахаю Алянандравічу Яднанаму лёгка кіраваць краінаю, і ён кожны сялянскі год, які складаецца з аднаго збору ўраджаю, аб'язджае зь візытамі па калгасах усю краіну, у прынцыпе ён больш анічога ня робіць, толькі як сядзіць у сваім Палацы й назірае праз камэры за жыцьцямі жыхароў... па чутках ён мае ажно за сорак тысяч камэраў, і гэта толькі ўсталяваных на будынках, вуліцах і ў грамадзкім транспарце... а дакладную колькасьць камэраў палічыць цяжка, магчыма, гэтыя зьвесткі знаходзяцца толькі ў камітэце бясьпекі Імпэрыі...

2065-ы дайшоў да прыпынку, на якім быў усталяваны вялікі тэлевізар, ён перадаваў учорашнюю гульню ў хакей сярод першага цэху камбайнёраў зь пятым аддзелам сейбітаў... прагучаў сьвісток, і каманды разьехаліся на адпачынак, а на экране зьявіўся тоўсты дзядзька ў зялёна-чырвонай вопратцы, ён, як звычайна, займаўся сацыяльнай прапагандаю: «селянін ніколі не павінен забывацца на тое, што хакей і пасяўныя — аснова ягонага жыцця, таму нумары (ідзе пералік шэрагу нумароў), якія ўчора не з'явіліся на ўсеагульным вечаровым спартовым мерап-

рыемстве, будуць пакараныя... кожны тыдзень у нашай Імпэрыі будуецца новы Лядовы Дварэц, і гэтага мусіць хапіць, каб сяляне жылі здарова й кожны вечар наведвалі гэтыя будынкі, нават хворыя... адсутнасьць на спартовых мерапрыемствах прыроўніваецца да спробы рэвалюцыі... наш карміцель, сьвяты Алянандр, не дзеля таго ізаляваў краіну, каб мы гультайствам хварэлі... мы існуём тут як вынік самаахвяры аднаго чалавека дзеля нацыі!.. усім нам добра вядома, што і да гэтага часу вядзецца барацьба са страйкістамі й бумцамі, якія памылкова лічаць нашу Імпэрыю несапраўднаю... караць, усіх караць!.. калі вы заўважыце кагосьці падазронага, абавязкова паведамляйце ў камітэт бясьпекі... мы спынілі міжнародныя адносіны і гандаль, бо таго жадаў Касьмічны Бог, бо сяляне былі абранаю нацыяй... яны доўга блукалі па зямлі, пакутавалі, прасілі дапамогі й абароны, але кожны раз траплялі ў пастку да нейкай варожай культуры... Непабядзімы выратаваў нас... таму мы мусім гэта памятаць і дабраслаўляць яго кожны дзень...» 2065-ы не пачуў свайго нумару (першыя чатыры лічбы якога якраз супадалі зь цяперашнім годам у Імпэрыі) з вуснаў дзядзькі-прапагандыста, і яму палягчэла, надалей ён амаль ня слухаў тэлевізар... яго аднойчы, год таму, ня пабачылі на Дражынках, галоўным сьвяце Імпэрыі пасьля Сьвята Нараджэньня Алянандра, прышэсьце якога хутка мусіла адбыцца, як прадказвала «Кніга», і таму ён кожны ранак, ідучы прыпынак, з жахам чакаў, калі пачуе свой ну-

мар з вулічнага экрану... яму не карцела ізноў апынуцца на спэцпрацы... але што ён мог зрабіць тады, калі сапраўды захварэў, а зьвярнуцца за дакумэнтам аб хваробе не было да каго, бо ўсе, УСЕ мусілі быць на Дражынках!!!.. і ён апынуўся ў нявыкрутцы, самотны й з тэмпэратураю ў ложку... да лекара ён дазваніўся толькі на наступны дзень, але той адмовіў яму, бо зьбіраўся на працу валанцёрам, будаваць новы Лядовы Дварэц на месцы старога, які падчас дражынак урачыста зьнесьлі... так бы мовіць — спартовая зацікаўленасьць за здаровую нацыю й здаровы лад жыцьця...

— шчасьлівы ты, 2065-ы, — прамовіў сусед на прыпынку, ім апынуўся 1313-ы, калега, яны разам сеюць..., — я так кажу, бо хутка ў цябе дзень нараджэньня... мо' цябе адзначаць на працы... хто ведае, — задуменна падагуліў 1313-ы й рамантычна ўгледзеўся ўверх, адзначыўшы заканчэньне дажджу...

пасяўнымі даводзілася займацца кожны месяц, бо збожжа зьбіралі дванаццаць разоў за «звычайны» год, таму кожны месяц адзначаўся Новы год... імпэратар-правадыр адмяніў стары адлік гадоў і месяцаў й перавёў на спэцкаляндар... які адштурхоўваўся ад пачатку пасяўных і да іх канца...

Імпэрыя пад капалам хутчэй нагадвала парнік, чым краіну, вада была праведзена пад стольлю й кожную раніцу палівала зямлю...

потым уключаліся, калі не было відно сонейка з-за хмараў — электразьберагальныя флюарысцэнтныя лямпачкі й грэлі краіну...

да прыпынку пад'ехаў вялізны й стары аўтобус, дзьверы адчыніліся, і з прыступак саскочыў хлопец, на яго адразу накінуліся два паліцэйскія, якія хаваліся за прыпынкам... «У чым справа!!! — лямантаваў хлопец. — Я маю волю размаўляць як хачу й дзе хачу!!!»... адзін з паліцэйскіх толькі прамовіў: «Мы атрымалі паведамленьне ад аднаго з пасажыраў аўтобуса, што вы гаварылі і звярталіся да людзей на забароненай бумскай мове, і па стацьці №235523767/13545 «Спроба гвалту Імпэрыі праз забароненыя гукі» вы будзеце ізаляваныя ад грамадства й адпрацуеце пэўны тэрмін на вытворчасьці пліткі для ходніку на карысьць сялянству і Імпэрыі»... 2065-ы толькі панура паглядзеў у бок скручанай постаці хлопца: «Чарговы вар'ят, якому абрыдла жыць», — падумаў і спужаўся сваёй думкі 2065-ы... яго нават штурханула ўсяго, быццам думку ён прамовіў, альбо яе маглі пачуць знутры галавы... наконт «знутры галавы» ён сапраўды быў амаль упэўнены... неўзабаве пад'ехаў ягоны аўтобус, абмінуўшы прыпаркаваны паліцэйскі трактар, дзьверы адчыніліся, і людзі пачалі па чарзе напаўняць салён, яны заходзілі моўчкі, з ссунутымі бровамі, ніхто ні з кім не размаўляў, ніхто нікуды не глядзеў, нават не разважаў... 2065-ы зьнерухомеў, у яго быццам адняло адразу ўсю

моц у цяглiцах, пад'ём па прыступках у аўтобус раптам апынуўся па-вар'яцку вусьцiшным, немагчымым... 1313-ы, калега па працы, схапiў яго за гальштук-матыль i прамовiў: «Гэй, 2065-ы, ты зараз не пасьпееш у аўтобус»... але мужчыну штурханула, i ў руках калегi засталася чырвона-зялёная тканiна... 1313-ы зiрнуў на сваю руку, пабачыў тое, што трымаў, i ажно падскочыў, спужаны будучымi патыньнямi й судамi: «Чаму сарваў камэру з 2065-ага?! Чаму парушыў стацьцю!?»... усё, гамон... 2065-ы на адной назе крутнуўся ў супрацьлеглы бок i пабег... пабег, колькi хапала моцы, як апошнi раз у жыцьцi... моцы ў нагах было дастаткова, каб палiцэйскiя, якiя да гэтага часу марнавалi час, запiхваючы бумскага хлопца ў палiцэйскi трактар «Селянiн», не пасьпелi заўважыць мiнi-драму на прыпынку й прамiргалi 2065-ага, якi зьнiк з поля зроку на рагу дома нумар 2465 на скрыжаваньнi вулiц Iмпэрыялiстычнай i Савецка-рабочай...

«Вялiкi Брат, Вялiкi Бацька, Надзейны Сябра, Сталы Таварыш — Мiклахай Яднаны, ён даў назву й аб'яднаў былыя землi сялянвалынян зь землямi смалян, ён — Галоўны Пасяўны, Кароль-Зерне, Прынц Iмпэрыi Сялян... дай Усявышнi яму здароўя на шмат год, каб нiколi не хварэў i не старэў, каб быў вечным, як i ягоны бацька Алянандр Непабядзiмы, што сочыць за намi з Раю, дай яму моцы, каб радасьць нёс, iльготы павышаў, заробкi падвойваў, пэнсii ўзмацняў!» — чулася ранi-

шняя малітва з Храма Свабоды на вуліцы Камуністычна-гістарычнай... 2065-ы бег, ашалелы ад адной толькі думкі, што ён зрабіў, бег, кіруючыся невядома куды... яго не цікавіў лёс ягонага суседа, якога маглі аддаць пад суд нават па стацьці №5746 «Знаходжаньне ня ў тым месцы не ў той час», самай жахлівай стацьці Імпэрыі, бо пад яе траплялі ўсе жыхары, калі судовая справа апыналася ў нявыкрутцы, каб не губляць твару Справядлівасьці — гэтая стацьця выратоўвала судзьдзяў...

у Імпэрыі Сялян існуюць тры дзяржаўныя ўстановы, якія цалкам займаюцца дзейнасьцю краіны: Міністэрства Дагляду — камэры, суды, паліцыя, дзейнасьць кбдрмс... Міністэрства Працы — пасяўныя, пасеў і праполка цукровых буракоў, збожжа, гадоўля жывёлы на забой... Міністэрства Гандлю — чым яно займаецца, ніхто ня ведае, бо ў Імпэрыі няма гандлю, усё набываецца за кошт талёнаў на харчаваньне, і частка заробку даецца наборам прадуктаў... 2065-ы спыніўся ў незнаёмым завулку, які выглядаў даволі самотна й меў роўную геамэтрычную форму... раптам з гучнагаварыльніка на яго грымнуў страшэнны голас: «Не варушыцца, 2065-ы!!! Вы парушылі стацьці №7534 «Зьняцьце пэрсанальнай камэры» і стацьцю №3463 «Знаходжаньне ў працоўны час не на працы», гэта прыказ... знерухомець і чакаць прыбыцця паліцэйскага аўтатрактара!!!»... 2065-ы ізноў пабег, яшчэ хутчэй, чым да гэтага...

урывак з «Кнігі»: «Нашая краіна — Блакітныя вочы Прыроды, яе межы неябсяжныя й займаюць усю зямлю, ад краю да краю яна ласкава накрыта купалам для захаваньня чыстаты паветра і харошага саспяваньня пасеваў... акрамя Імпэрыі не існуе больш месца пад Сонцам... за мяжой Імпэрыі — канец сьвету... патаму што так нам вядома із даследаванняў — Імпэрыя знаходзіцца на плоскай Зямлі, і за яе межамі — вусьцішная пастка — касьмічнае бяздоньне!!!»... з гучнагаварыльнікаў распачалася перадабедзенная лекцыя... 2065-ы, не спыняючыся, бег... «мне трэба на край Імпэрыі!!!» — раптам выбухнула ў ягонай галаве, «калі там насамрэч нічога, толькі бяздоньне... я гатовы буду на суд і нават на сьмерць...» — казаў ён сам сабе й бег, бег, спатнелы, зьбялелы, спужаны сваёй рашучасьцю й апантанасьцю... раптам ён выскачыў на Цэнтральны Пляц, як так апынулася, ён ня мог уцяміць, бо наўмысна бег у супрацьлеглы бок... на Цэнтральным Пляцы ўзвышаўся стомэтровы конны помнік Алянандру Непабядзімаму, які пагрозьліва глядзеў адначасова ва ўсе бакі... у архітэктара выдатна атрымалася запужаць гэтым помнікам усё насельніцтва... побач з помнікам узвышаўся, амаль не саступаючы каню й коньніку па памерах, Цэнтральны Лядовы Палац, перад якім быў уманціраваны Галоўны Экран Імпэрыі, ён амаль расплюшчваў сваімі памерамі сялян унізе... якія на «пяціхвілінку радасьці» павыпаўзалі з суседніх фабрыкаў і заводаў...

натоўп спачатку кланяўся перад помнікам, потым з экрана грымнуў гімн Імпэрыі, а пасьля зьявілася вядучая, каб абвясьціць абедзеную гімнастыку... 2065-ы быў вымушаны затрымацца ў натоўпе, каб прарабіць усе патрэбныя працэдуры, бо ягоны бег адразу патрапіў бы ў шматлікія камэры на пляцы, і ён быў бы адразу заўважаны й схоплены... натоўп пачаў па адліку вядучай на экране рабіць рухі ў бакі, скакаць і прысядаць... перад 2065-ым стаялі два работнікі Міністэрства, адзін другому казаў: «Сёньня праз дзьве гадзіны да заходняй мяжы мусіць прыехаць пусты цягнік, трэба будзе яго загрузіць пліткаю для ходніка, таму пасьля гімнастыкі трэ тэрмінова адаслаць патрэбныя дакумэнты пнэўмапоштаю, каб яны пасьпелі...» — далей 2065-ы нічога больш ня чуў, бо распачалася фінальная працэдура гімнастыкі, і жанчына з Экрану, амаль пасадзіўшы голас, галасіла: «Адзін! Два! Тры! Скокаем да гары! Чатыры! Пяць! Шэсьць!»...

трэба было як мага хутчэй дабрацца да заходняй мяжы... «праз дзьве гадзіны»... адна гадзіна прыроўнівалася да часу, за які камбайн робіць збор збожжа ў адзін бок на Цэнтральнай Пасяўной Зямлі...

2065-ы бег... бег... бег... за ім гналіся паліцэйскія... толькі праз дзесяць хвілін, задыханы й зьбялелы ён скокнуў у аўтобус Міністэрства Гандлю, на якім было напісана: «У бок Заходняй мяжы»... 2065-ы ня ведаў,

колькі трэба часу, каб даехаць да мяжы, але паводле «Кнігі» Імпэрыя амаль неабсяжная...

2065-ы ехаў сем гадзін й разважаў, што ўжо не пабачыць ніякага цягніка... да яго пяць разоў падыходзілі розныя мужчыны з адным і тым жа пытаньнем: «Што гэта працаўнік у чырвоным працоўным касьцюме робіць у аўтобусе Міністэрства Гандлю, які рухаецца ў бок мяжы?!»... але ён адказваў, што недалёка ад мяжы зьявілася новае поле збожжа, на якое ён разьмеркаваны... і яго пакідалі ў спакоі, бо ніхто не мае права аспрэчваць загад...

аўтобус спыніўся, дзьверы адчыніліся, 2065-ы скочыў на ходнік і адразу заўважыў вакол сябе прастору, спрэс аточаную паліцэйскімі й аўтатрактарамі... яго адразу ўбачылі, бо чырвоны колер вопраткі рэзаў вочы, адбіваючыся ад звыклага шэрага колеру памежнікаў і рабочых... «Стаяць!!!» — загарлапанілі амаль у адзін голас некалькі паліцэйскіх у блакітным і памежнікаў у шэрым... да 2065-ага бегам набліжаўся натоўп мужчынаў...

даведка №1: жанчыны ніколі не працавалі на пасевах і на мяжы, і на спэцпрацах, мужчыны бачылі жанчын толькі падчас асемяненьня, увесь астатні час жанчыны жылі адным кагалам у доме рэпрадукцыі, што з правага боку ад коннага помніка Алянандру, на Цэнтральным Пляцы, жанчыны ў асноўным нараджалі, гатавалі наборы месячнага харча-

ваньня й на машынках шыліласкуты тканінаў, робячы зь іх спэцвопратку, а таксама кожная жанчына абавязана была за сваё кароткае жыцьцё — 240 сялянскіх гадоў (20 звычайных год) зацяжарыць нашчадкам Міклахаю Яднанаму, семя якога прыносілася ім зь Міністэрства ў якасьці галоўнага падарунка на дзьвюхсот дваццаці васьмігодзьдзе... жанчыны пачыналі цяжарыць са 120 гадоў, але потым, калі ім спаўнялася 240 і яны пакідалі нашчадка імпэратару, быццам кветкі без вады, амаль за некалькі дзён вялі... сярод бумскага насельніцтва, якое жыло пад зямлёю, але, кажуць, жыло па-іншаму й нават больш якасна й весела, хадзілі чуткі, што жанчыны так хутка паміралі празь неверагодна буйных нашчадкаў, якіх вымушаны былі нараджаць...

бумская незалежная даведка: па дасьледаваньнях бумскіх вучоных, семя было генэтычна мадыфікаванае, а па Тэорыі бумскага гісторыка Арловіца — Міклахай Яднаны — міт, прыдуманы, каб лягчэй было ўтрымліваць у сваіх руках Імпэрыю тым самым палітолягам і міністрам, якія з Маскоўальскай тэрыторыі кіруюць Імпэрыяй, і ўсё гэта зьдзейсьнілася яшчэ пры Алянандры Непабядзімым, у якога на другім годзе кіраваньня пачалася хвароба мозгу і ён пачаў паўсюль з сабою браць Міклушу, які на той час быў яшчэ малым падшыванцам... але Міклахай амаль кожны вечар быў новым дзіцёнкам, бо Алянандр хваляваўся, каб сапраўднага Міклахая не застрэлілі

бумскія снайперы, і такім чынам сапраўдны Міклахай быў яшчэ ў той час недзе згублены й пераблытаны з двайнікамі... ды й увогуле, знакамітую «Кнігу» ўжо потым да канца дапісвалі маскоўальскія валадары...

дарэчы, пераход да сялянскай мэтрыкі й часаадмэру пасаваў усёй сыстэме, бо кожнаму бачылася, што яны жывуць доўга, больш як 240 гадоў — відавочны вынік высокай якасьці жыцьця...

даведка №2: сэкс карыстаецца папулярнасьцю ў Імпэрыі, мужчыны стала атрымліваюць сэксазадавальненьне ад прасталытак і спэцбрыгадаў, якія па званку альбо загадзя па замове прыяжджаюць і прадастаўляюць пэўныя паслугі... існуюць бумскія чуткі, што гэта не сапраўдныя людзі, а спэцыяльныя істоты, клона-клоўны, узрошчаныя ў спэцыяльным месцы з назваю «брмс»... але смокчуць яны даволі някепска й прафэсыйна, бо іх зь цяжкімі высілкамі вырошчваюць, трэніруюць і адбіраюць для гэтага занятку сярод самых старанных і імпэтных клона-відаў, гатовых на ўсё... сэкс — гэта вельмі істотна, бо толькі дзьве рэчы на сьвеце трымаюць чалавека глуханямым і няздольным на развагі й імкненьні — вар'яцкія юрлівыя жарсьці й вайна... а грамадзянская вайна, як вядома, скончылася яшчэ чатырыста сялянскіх год таму, калі схавалі за кратамі апошняга бумскага адваката...

даведка №3: на 2065 год у краіне налічвалася каля 13987564587 нашчадкаў Міклахая, так бы мовіць, яны ўсе былі прэтэндэнтамі на «прастол»... усіх клікалі аднолькава — Міклахай Другі... у любым выпадку, калі ня вернецца зь Нябёсаў Алянандр Непабядзімы, Міклахай Другі будзе ўтрымоўваць у сваіх рукох супакой і сьвет Імпэрыі, цытата з «Кнігі»: «захоўваючы яе (Імпэрыю) у цнатлівай бялізьне і з блакітнымі вачыма...», а ўсіх астатніх Міклахаяў Другіх — 13987564586, колькі іх засталося без улады, было наканавана зьнішчыць, каб не прэтэндавалі на прастол, бо хопіць таго, што Імпэрыя да гэтага часу пакутуе праз бумскае насельніцтва...

2065-ты раптам закружляў вакол аўтатрактараў, быццам трус, яго перасьледавалі мужчыны, гналіся за ім, зь іх ратоў ляцела сьліна, і пот трапляў ім у вочы, але яны ўжо дзесяць хвілін, як насіліся за звар'яцелым 2065-ым, забіваць яго нельга было, бо ён мог яшчэ паслужыць на карысьць Імпэрыі, тым больш з такімі хуткімі нагамі, калі б не парушаў законаў, быў бы «першым хлопцам-хакеістам» у сваім раёне... чырвоны камбінэзон раптам блёснуў і зьнік, ніхто ня мог яго знайсьці... памежнікі насіліся, зазіралі пад вагоны цягніка... але нідзе яго не было... 2065-ы прыціх, запоўзшы пад рэйкі і пачаў прыслухоўвацца... вось нейкая дзіўная гаворка, падобная да бумскай... так, ага... вось падышоў нейкі іншы мужчына, у сінім камбінэзо-

не й забалбатаў таксама на нейкай мове, быццам падобнай да імпэрыялістычнай... напэўна, яны не самотныя ў гэтым сьвеце... файна... 2065-ы супакоіўся, сэрца перастала бухаць, і ён пачаў плянаваць уцёкі за мяжу...

неўзабаве вагоны былі спрэс запампаваныя пліткаю для ходніка... цягнік здрыгануўся й паступова пачаў набіраць хуткасьць, як раптам, затармазіў... 2065-ы толькі й пасьпеў, як пабачыць дзьве пысы, якія лыбіліся яму, адну пысу ў шэрым, памежніцкім і другую — ў сінім, варожа-невядомым... потым толькі белаю маланкаю невядомы да гэтага боль працяў усё цела... і ён апошні раз уздыхнуў... з гучнагаварыльнікаў жаночы голас ізноў, як па раскладзе, забалабаніў знаёмыя зь дзяцінства словы: «Сяляне, унімацельна прысматрыцеся, якое сьвятло сігодня в Імпэрыі! Эта вам не сонца, што непанятна как свеціць пад аблокамі, эта настаяшчы цуд галактыкі — купал са сьветам, каторы трансліруецца, не падпарадкоўваючыся надвор'ю, вы гэта ўяўляеце? І гэтую рэч прыдумаў у прамежку між управленнем цэлай страной наш Валадар, тады яшчэ не кантыненту, але краіны, наш напаўбог-напаўчалавек!». Жыцьцё працягвалася... людзі ў каляровых камбінэзонах з камэрамі на шыях працягвалі існаваць, седзячы ў каробцы... нічога ня зьмянілася, толькі імёны...

10.01 — 15.03.2011<br>Ваймар

## МЯСАРЭЗКА

*А палілі, як мне вядома, да гэтага часу толькі кнігі, але гэта нішто!*
*А наш фюрэр пакажа нам і іншае, я цьвёрда на гэта разьлічваю.*

*Клаўс Ман «Мэфіста.*
*Раман аб адной кар'еры»*

Сёньня я гатую катлеты, Юля зьвязаўся са мною па рацыі й сказаў, маўляў, Гераня, буду празь дзьве гадзіны, вязу гарэлку. Я адказаў, што калі пасьпею, будуць катлеты, з самых што ні ёсьць мясных частак зомбі, вурдалакаў, троляў, гномаў, графаманаў, німфаў і паэтаў, усіх тых пэрсонаў, якіх зашмат у сучаснай прасторы, на іх я часта палюю, іх часта сустракаю, некаторыя зь іх ляжаць парэзаныя ў маёй лядоўні-маразілцы. Успрымаць гэта кожны можа па-свойму, я гэта бачу менавіта так і ніяк інакш, бо, шчыра кажу-

чы, як я магу называць істоту чалавекам, альбо, даруй Божа, дзеячам, творцам, які паводзіць сябе як зомбі, дакладней зьяўляецца зомбі альбо быком... Пачварны, мярзотны, тупы, але пісьменны бо ня ўсе зьвіліны згнілі... Зомбі вельмі любяць прыходзіць на розныя літаратурныя выступы, самі пішуць мала й кепска, але часта пажыраюць якога троля і здольныя нават на някепксі вэрлібр, які потым часта чытаюць, як мантру, ажно пакуль ня знойдуць новую ахвяру, каб зжэрці, яны надта небясьпечныя, бо імкнуцца да высокіх пасадаў... Зомбі павольныя, таму часта марудна рухаюцца і іх лёгка забіць, іх маленечкі мозг часта сам па сабе не вытрымлівае й лопаеццца, цела потым можна забіраць з сабою. Ня бойцеся, канібалам вас не абзавуць, гэта ж ня людзі, так, крыху адукаваныя жывёлкі... Сёньня ў мяне застаўся ў лядоўні кавалачак шыі, ён першы пойдзе ў мясарэзку... Дарэчы, зомбі часта кідаюцца на эльфаў і выядаюць ім страўнік, лічыцца, што такім чынам зомбі лягчэй пісаць вэрлібры...

Горад спапялёны, дамы зруйнаваныя...

Дома ў мяне шмат рознай зброі, пасьля таго, як рэактар Астравецкай АЭС выбухнуў, а потым астатнія трыццаць тры, пабудаваныя па краіне, жыць стала зусім невыносна, раней усе хаваліся й пакутавалі ад дыктатуры, цяпер электарат ператварыўся ў жудасных пачвар, многія раней былі простымі рабочымі й няўдалымі палітыкамі, цяпер

апынуліся драпежнікамі, вось я й сяджу, увесь час як на іголках, чакаю, праз ваконную шчыліну сачу, калі Юля будзе бегчы са свайго танка да майго дому, з гарэлкай у заплечніку з бліжэйшага гіпэрмаркета, які яшчэ ня цалкам разрабаваны такімі, як мы, напаўжывымі, але людзьмі... ноччу на вуліцах пануюць крывасмокі, але яны не такія страшныя, як дзённыя, якія нават на адлегласьці могуць завалодаць вашай падсьвядомасьцю і скарыстацца гэтым, каб вас упаляваць...

Раней і без катастрофы на нашай зямлі было шмат пачвараў, але цяпер нібыта толькі яны й засталіся, і, калі вы чытаеце гэта дзесьці на вольнай зямлі, можаце разумець мой сьвет крыху па-іншаму, напэўна вы пачнеце сьвет, які мяне атачае, інтэрпрэтаваць праз мэтафару майго ладу жыцьця, але тут усё, напэўна, нават прасьцей, бо гэтыя пачвары існуюць як факт, як штосьці рэальнае, штосьці, што мае цела... а гэта ўжо непазьбежна вядзе да трагедыі, да вар'яцтва, да неўспрыманьня, да зьнікненьня алюзій, а таму мы пакінем усё, як ёсьць, нібыта татальную прамову-катастрофу, жах у межах адной краіны, які тычыцца цэлага сьвету.

У маёй краіне лад жыцьця не такі, як у астатнім сьвеце, мы ізаляваліся, яшчэ калі кароль захварэў на пыху, а пасьля таго, як зьявіліся першыя зомбі, мы спынілі нават асноўную інтэрнэт-камунікацыю, тэлефонныя кабелі былі зьнішчаныя. Жыць сярод зомбі — вусьцішна, але ня так жудасна, як сярод тых,

хто яшчэ застаўся чалавекам і пачаў ганарыцца тым, што ён такі спрытны, таленавіты й моцны, таму да гэтага часу яшчэ не зьяўляецца зомбі, такія хутка становяцца быкамі, бо іх пасьпяваюць завербаваць у кампанію гномаў.

Мясарэзка круціцца, і вось у яе ўжо пакладзены сакавіты кавалак ваўкалака, які нядаўна так шукаў са мною сустрэчы, нібыта сяброўства, ліставаў мне пра тое, што ён сапраўдны экзыстэнцыйны пісьменьнік, падкідваў лісты і тэксты мне пад дзьверы, пісаў што ён аўтар шматлікіх кніг пра злыдняў... але, шчыра кажучы, пісаў вельмі кепка, дыялёгі паганыя, героі пачварна мацюкаюцца на кожным сказе, сюжэт тупы й банальны. Я вымушаны быў адрэзаць яму язык, а, як нам вядома, без языка ваўкалакі ня здольныя ані радка напісаць, бо іх літаратурны спрыт цалкам зьвязаны з балбатаньнем.

Але самымі драпежнымі й жахлівымі сталіся гномы, якімі яшчэ ў ціхія часы кіраваў адзін пачварны дзяяч, абвешаны несапраўднымі мэдалямі, які паўсюль нёс лухту падобную на шалупіньне ад семачак, кшталту цэнзуры, гуманізму й цнатлівасьці, а сам выдаваў кнігі страшна графаманскія й пачварнарасхістаныя на сэксуальных вычварэньнях і таемных дэтэктыўных сюжэтах... Гномы апрануліся ў чорныя гарнітуры, навешалі на грудзі мэдалёў і адасобіліся ад «грамадства», лічачы, што яны апосталы й захавальнікі ўсяго самага лепшага ў сьвеце... Да гномаў

адразу далучыліся дупалізы, маленькія такія жывёлінкі, звычайна з маленечкімі вочкамі-гузікамі, якія шмат чаго робяць, але саромеюцца гэтага й вельмі паважаюць гномаў за тупы імпэт... У дупалізаў звычайна заўсёды брудны твар, нібыта ў лайне, такім чынам іх вельмі лёгка адрозьніць ад троляў, яны ня брудныя, бо сочаць за чысьцінёй, але знутры такія ж паганыя... Гномы адразу атачылі сябе купкай быкоў, якія сталіся іх галоўным абарончым патэнцыялам.

Людзі, якія былі здольныя на хоць якія нармалёвыя думкі, дзеяньні, адэкватныя мысьленьні, аб'ектыўныя позіркі, на дыялёгі, апавяданьні, раманы, п'есы, на мастацтва, на працу, палітыку, на высокае жыцьцё, былі вымушаныя зьехаць, пакуль да іх не дабраліся паплечнікі фюрэра, які кіраваў гномамі й быкамі... Тыя, хто застаўся, маглі толькі плявузгаць пра сваю веліч, яны ператвараліся ў пачвар, збольшага, вядома, праз выбухі на АЭС, але сапраўдная праблема існавала й да гэтага, калі фюрэр распачаў сваю палітыку, калі быкі пачалі ганьбіць таленты, калі таленты пачалі зьязджаць, калі быкі пачалі вывозіць людзей у лясы й пагражаць аўтаматамі, а потым і расстрэльваць, рэжым больш ужо не абыходзіўся спаленьнем кніг і лістовак, кніг больш не засталося, цяпер трэба было паліць людзей... але адбыўся выбух, і тыя, хто спачатку падаваліся людзьмі, ператварыліся ў «штосьці», і ўсе чалавечыя хібы, неадукаванасьць, дурасьць, выпаўзьлі вонкі, нібыта хва-

роба на радыяцыяю стала каталізатарам да ператварэньняў, і як хтосьці пакрыўся ранамі й струпамі, так хтосьці апынуўся пачварай, а замест ранаў атрымаў пэўныя рысы характару, якія сталіся бачнымі нават звонку.

Збольшага, вядома, людзі існуюць, бо немагчыма, каб увесь кантынгент краіны цалкам зьнік... Гаворка тут ідзе пра самых драпежных, ня тых быкоў альбо парсюкоў, якімі ёсьць большасьць людзей, што засталіся, але пра тых, пра якіх раней часта ў фюрэрскіх СМІ пісалі: мы паэтычная краіна, ў нашым літсаюзе гномаў ажно за тысячу чальцоў, вы іх ня надта ведаеце, але яны ёсьць, у нашых моладзевых арганізацыях увесь узор нацыі... з гэтым не паспрачаесься... Цяпер мы на іх палюем, у гномаў надта смачнае мяса, ружовае сакавітае, тлусьценькае, ніякіх цягліц... так існаваць можа што заўгодна... вось зараз існуе цяперашні час... Калі гномы павыпаўзалі са сваіх пячораў, абвешаныя мэдалямі й званьнямі, нібыта філятэлісты з маркамі, шныраючы начамі, сноўдаючы ад адной кватэры да другой, хапаючы быкоў і парсюкоў, вытрасаючы зь іх ежу, вярбуючы ў свае шэрагі... Сьвет зьмяніўся, і вось на стале ў мяне ляжыць шчака аднаго з гномаў, яна лічыцца далікатэсам, ніякіх жылак, усё мяккае, далікатнае, сакавітае, гномы самі вельмі любяць свае шчочкі, якія раней так старанна галілі і абмазвалі алеем, яны іх часта самі пакусваюць, сваімі маленькімі дробнымі зубкамі...

Дарэчы, німфы... на вялікі жаль, учора яны ў мяне скончыліся, трэба будзе напаляваць яшчэ... Німфы — бязмозглыя жанчыны, часта жывуць самотныя, мараць пра дом на беразе ракі, пра прынцаў і ні да якой прафэсіі ня здольныя, толькі пішуць пра каханьне й прыроду, зачараваныя ваўкалакамі, таму акрамя іх нікога больш ня бачаць... на іх лёгка палююць усе, каму не лянота...

Думаеце, навошта мне так шмат мяса? ...па-першае, я люблю паляваць, па-другое, у маім атачэньні існуе пэўная колькасьць драпежнікаў, якія адмовіліся далучацца як да боку гномаў-быкоў, так і да зомбі-пачвараў, таму трэба неяк выжываць, прыстасоўвацца, бо з краіны немагчыма зьехаць, паўсюль кардоны, паўсюль забаронена выязджаць з забруджанай радыёактыўнай тэрыторыі.

Ваўкалакі... я раней зь імі сябраваў, мужныя істоты, моцныя, прызнаныя амаль усімі суполкамі гномаў як пасьпяховыя й вольныя, але ваўкалакі настолькі часта зьмяняюць свае густы, што аднойчы мне стала вусьцішна за свой лёс, калі я пабачыў, як на зборы ваўкалакаў, адзін зжэр іншага... больш я да іх не вяртаўся...

Дарэчы, самымі файнымі істотамі, зь якімі я часьцей за ўсё стасуюся і да якіх добра стаўлюся, засталіся тролі... так, тролі... яны выдатна троляць... мы па жыцьці зь імі чаго толькі не рабілі... і яны, дарэчы, адзіныя Чалавечныя пачвары з усіх відаў драпежнікаў, жывёл і людзей...

Катастрофа, палітычны ўклад, тэрарызм, гэнацыд культуры ня пройдуць бясьследна... нас мусіць чакаць вайна, вайна за расу, культуру, за наш арэал... і гэта мусіць быць жахліва...

У пяцідзясятых гадах дваццатага стагодзьдзя пра сваю пасьляваенную сучаснасьць ладна пісаў Чэслаў Мілаш у «Скутым розуме»: «Аднак ужо першае вандраваньне па вуліцы, ходнікі якой пакрывае тоўсты слой шкла з разьбітых бомбамі шыбаў, а па праезджай частцы вецер носіць паперы з эвакуяваных у паніцы бюро, падрывае ягоны давер да ўяўнае натуральнасьці ягоных ранейшых звычак. Як ляцяць гэтыя паперы з такой вялікай колькасьцю пячатак, з подпісамі «даверна», «зусім сакрэтна»! Колькі ж сэйфаў, ключоў, колькі мясістых дырэктарскіх падбародзьдзяў, канфэрэнцыяў, пасыльных, цыгараў і паненак, што ў напружаньні стукаюць на машынках! А тут вецер гоніць гэтыя паперы праз вуліцу, кожны можа іх падняць і прачытаць, але ніхто ня мае ахвоты, ёсьць больш пільныя справы, напрыклад, здабыць кіляграм хлеба. І нічога, сьвет працягвае існаваць. Як дзіўна. Чалавек ідзе далей праз вуліцу і затрымліваецца перад домам, распалавіненым бомбаю. Прыватнасьць людскіх жытлаў, іхныя сямейныя пахі, іхнае цяпло пчаліных сотаў, іхная мэбля захоўваюць памяць каханьня і нянавісьці! А зараз усё на паверхні, дом адкрывае сваю структуру; гэта не скала,

што трывае стагодзьдзі: тынкоўка, вапна, цэгла, шалёўка, а на трэцім паверсе самотная і прыдатная цяпер хіба толькі для анёлаў белая ванна, зь якой дождж выпалашча ўспамін пра тых, што некалі ў ёй мыліся. Людзі, яшчэ нядаўна заможныя і шаноўныя, страцілі ўсё, што мелі, яны ідуць праз палі і просяць у селяніна прыгаршчу бульбы. Грошы зьмяняюць вартасьць са дня на дзень — ператвараюцца ў стос бяз сэнсу надрукаваных прастакутнікаў. На купе яшчэ цёплага пасьля пажару друзу сядзіць малы хлопчык і, калупаючы ў папялішчы драцяным прутком, акампануе сабе ў гэтай забаве песьняй пра вялікага правадыра, які настолькі мужны, што не дазволіць ворагу нават наблізіцца да межаў. Песьня яшчэ засталася, але правадыр на працягу некалькіх дзён ператварыўся ў мінулае.

Потым трэба пачынаць набываць новыя звычкі. Натыкаючыся на труп на ходніку, грамадзянін раней пабег бы да тэлефону, сабралася б шмат разявакаў, прагучалі б заўвагі і камэнтары. А зараз ён ужо ведае, што трэба як найхутчэй прамінаць гэтую лялькку, што ляжыць у цёмнай калюжы, і не задаваць непатрэбных пытаньняў. Той, хто стрэліў, мусіць, меў нейкія свае прычыны. Падпольны прысуд выносіцца зазвычай без выслухоўваньня абвінавачанага.

У нармальным эўрапейскім горадзе ніхто не загадвае людзям, каб яны вывучалі плян гораду, правяраючы, ці кожны жыве ў адпа-

ведным раёне. Чаму не? Раён A ёсьць для аднае расы, раён B — для другой, раён C — для трэцяй. Вызначаецца тэрмін пераезду, і вуліцы перапаўняюцца доўгімі шэрагамі цяжарнікоў, ручных вазкоў, тачак, людзей з клункамі, ложкамі, шафамі, рондалямі, клеткамі з канарэйкамі. Пакуль нарэсьце кожны не паселіцца ў сваім раёне, і нічога страшнага, што ў некаторых раёнах дом, што меў дзьвесьце жыхароў, цяпер павінен зьмясьціць дзьве тысячы. Цяпер вакол раёну C будуюцца высокія муры, зачыняюцца брамы і на працягу доўгіх месяцаў загружаюцца штодзённа новыя порцыі мужчынаў, кабетаў ды дзяцей у вагоны для быдла, якія адвозяць іх на спэцыяльна збудаваную фабрыку; там чалавечыя транспарты атручваюцца паводле навуковага мэтаду, а целы спальваюцца у аграмадных крэматорыях.»

Так, у нас была перабудова, крызіс, аўтарытарызм, вэгэтарыянская дыктатура, выбух... але тое, пра што пісаў Мілаш, цяпер ізноў у нас, усё ізноў рэальнае... пакуль няма толькі аднаго, трупы на вуліцах не валяюцца, іх хаваюць, крадуць, ядуць і закопваюць, каб ніхто ніколі нічога ня ведаў, тое, што было — ніколі не было.

Закапаць! Зжэрці! Спаразытаваць на Скуры Зямлі ў адной Мітычнай Дзяржаве!

Усе прамаўляюць рэфрэнам: «мая хата з краю, я тут ні пры чым... я не забіваў, ня я

забіў... абы не было вайны…» але вайна ўжо даўно тут, і цяпер набліжаецца да сваёй кульмінацыі, разьзяваючы варожую чорную пашчу... і нават заклінаньні тут не дапамогуць, кожнага гэта кранецца...

Хутка ўжо мусіць прыйсьці Юля, мяса скручанае, мясарэзка самотна блішчыць на ўскрайку стала, патэльня на плітцы, пад дзьвярыма, я чую, нехта ходзіць, напэўна, суседка, якая пачала працаваць на гномаў, але няхай, мне ня вусьцішна, я хвалююся толькі за сябра, але той апошнім часам паводзіць сябе ня надта шчыра са мною, напэўна, пад ягоны чэрап ужо патрапілі першыя радыяцыйныя думкі, што ён такі ж самы, як і зомбі, быкі й насарогі... Гэта вусьцішна, ад такога ніхто не застрахаваны, калі ўлада належыць фюрэру, людзі хутка ператвараюцца, і гэты працэс, здаецца, няспынны, паўсюль насарогі, быкі, насарогі, быкі, насарогі... а нам застаецца толькі станавіцца лаўцамі пачвараў, як раней гэта рабіў Хрыстос, ловячы людзей, мы рушым далей, мы вымушаныя станавіцца спажыўцамі, пакуль не паелі нас, закон жывёльна-чалавечых стасункаў ніхто не адмяняў... насарогі й зомбі ўжо на прыступках, гномы каля кожнага вакна, Юля едзе занадта доўга.

23.08 — 30.09.2011
Менск — Гародня — Менск

## БІЯГРАФІЧНАЯ ЗЬВЕСТКА

Сяргей Календа — пісьменьнік, культуроляг. Скончыў Факультэт міжнародных зносінаў БДУ і Факультэт літаратуры й філязофіі Беларускага Калегіюму.

Фіналіст конкурсу маладых літаратараў імя Ларысы Геніюш Беларускага ПЭН-цэнтру ў 2010 годзе.

Ляўрэят літаратурнай стыпендыі «Friedel-Dicker-Stipendium» 2010 — 2011 Ваймар (Нямеччына).

Аўтар кніг:
«Помнік атручаным людзям» (2009);
«Казкі: Гісторыі (не) пра нас» (2010);
«Іржавы пакой з белымі шпалерамі» (2011).

Друкаваўся ў часопісах: «БЛ.ЯТЬ», «Дзеяслоў», «БОЛЬШОЙ», «pARTisan», «Мала-

досць», у дадатку «Літаратурная Беларусь» газэты «Новы Час», у расейскім часопісе «Дружба народов», нямецкім часопісе «eXperimenta», аўстрыйскім часопісе «Literatur und Kritik». Выступаў на радыё «Свабода», «NETradio», тэлеканале «ЛАД».

Удзельнік шматлікіх літаратурна-мастацкіх фэстаў: ДАХ-IX; ДАХ-XI; 54 Вэнэцыянскае Біенале ў Менску; Вечарына маладой беларускай літаратуры, прысьвечаная 100-годзьдзю Ларысы Геніюш (Прага); Адкрыцьцё нямецкага парталу сучаснай беларускай літаратуры ў перакладах litera-bel.de (Берлін); Літаратурна-мастацкі міжнародны фэст імя Валошына (Кактэбель); Львоўскі міжнародны літаратурны фэст і 18 фэст выдаўцоў (Львоў).

Стваральнік і галоўны рэдактар вольнага, непадцэнзурнага, двухмоўнага часопіса беларускае прозы й перакладаў «Макулатура».

ЗЬМЕСТ

## АРХІТЭКТУРНЫЯ АПАВЯДАНЬНІ
## (Літаратурны праект)



## ГЕНЭРАЦЫЯ ФАНЦІКАЎ
## І ФІШАК
## (Аповесьць)

## СКУРА ЗЯМЛІ
## (Апавяданьні)

Літаратурна-мастацкае выданне

**Календа** Сяргей
**ТРОХЛІТРОВАЯ ПРОЗА**

Рэдактар
Аляксандра Дорская

Карэктары
Аляксандра Дорская, Марына Весялуха

Вёрстка
Галіна Васілеўская

Вокладка й ілюстрацыі
Васіліса Паляніна-Календа

Падпісана ў друк 02.04.2012 г. Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$.
Ум. др. арк. 13,23. Ул.-выд. арк. 13,23. Накдад 500 экз.
Замова 374.

Выдавец І. П. Логвінаў.
ЛВ № 02330/0494468 ад 08.04.2009.
Пр. Незалежнасці, 19-5, г. Мінск, www.logvinau.by

Надрукавана на капіравальна-памнажальнай
тэхніцы ІП Логвінава.